


Рэгіянальная газета. Rh.by
rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

23 красавіка 2021 года №17 (1356)

18+



**Як і чым памераць тэмпературу дзіцяці**
старонка 20

**У Гальшанах аднавілі паўночную вежу замка**
старонка 2

**ФК «Маладзечна» рыхтуецца да сезона ў другой лізе**
старонка 22

**Педагога з Астраўца асудзілі за чырвона-белы плед, які сушыўся на балконе**
старонка 21

# Вярнуў беларусам Вялікае Княства Літоўскае

**29 красавіка – 100 год гісторыку Міколу Ермаловічу. Пра навукоўца, публіцыста, паэта, Ганаровага грамадзяніна Маладзечна расказала дачка Алена.**

старонкі 18-19

Алена Ермаловіч ля партрэта бацькі аўтарства Кастуся Харашэвіча.

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

ISSN 1991–7155




Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Адкрыццё паўночнай вежы і фестываль

## У Гальшанах пройдуць культурныя мерапрыемствы ля сцен замка

**У маі ў Гальшанах пройдуць культурныя мерапрыемства каля сцен замка. Спачатку для турыстаў адкрыюць аднаўленую паўночную вежу, а напрыканцы месяца пройдзе традыцыйны фестываль, які мінулым годам адмянілі праз каронавірус.**



6 і 22 мая ў Гальшанах чакаюць турыстаў.

### Аднаўленая паўночная вежа

Адкрыццё аднаўленай паўночнай вежы Гальшанскага замка адбудзецца 6 мая. У паўночнай вежы рэстаўравалі тры паверхі і падвальнае памяшканне. На адным з узроўняў вежы асобнае месца будзе займаць камін, які аднавілі па тэхналогіі 17 стагоддзя.

У некаторых памяшканнях праведзены роспіс частак столі і сцен.

**У некалькіх месцах адмыслова зрабілі зандажы. Іх выканалі для таго, каб наведнік змог пабачыць аўтэнтычную цэглу, з якой будавалі замак некалькі стагоддзяў таму.**

На апошнім, трэцім, узроўні стварылі аглядальную пляцоўку. З пляцоўкі адкрываецца панарама мястэчка Гальшаны.

6 мая каля сцен Гальшанскага замка адбудзецца тэатралізаванае прадстаўленне артыстаў раённага цэнтра культуры. На замчышчы будуць арганізаваныя майстар-класы па ганчарнай справе, разьбе па дрэве, вырабе лялькаў-абярэгаў, вышыўцы і інш. Пройдзе рыцарскі турнір, майстар-клас па сярэднявечных танцах і прадстаўленне батлейкі.

### Фестываль «Гальшанскі замак»

Фестываль «Гальшанскі замак» пройдзе ўпершыню з 2019 года. У 2020 годзе імпрэзу адмянілі праз пандэмію каронавіруса. У гэтым годзе арганізатары фестывалю ўжо вызначыліся з датай – **22 мая**.

«Гальшанскі замак» – гэта фестываль сярэднявечнай культуры. У праграме чакаецца тэатралізаванае шэсце, выступленне музычных гуртоў «Арацэя», «Восьмыдзень», «Дразды».

Ля сцен замка будзе адчынены парк сярэднявечных забаў, паставяць спектакль «Легенда старога замка». У гэты ж дзень пройдуць рыцарскія турніры і турнір сярод лучнікаў. Адзначаецца, што разам з турнірамі адбудзецца тэатралізаванае коннае шоу.

**У спісе забаўляльных мерапрыемстваў будуць майстар-класы па фехтаванні, народных рамёствах, выставы і продаж вырабаў рамеснікаў.**

Фестываль «Гальшанскі замак» праводзіцца з 2009 года. У 2009 годзе фестываль быў прысвечаны 10-годдзю ўтварэння гурта «Стары Ольса», а ў 2010 годзе фестываль арганізавалі ў гонар 400-годдзя пабудовы Гальшанскага замка.

Падрабязную інфармацыю можна даведацца па тэлефонах: **(8-01593) 4-54-68, (8-029) 939-78-56**.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Дайджэст – пра галоўныя падзеі ў Беларусі і свеце

**«Рэгіянальная газета» традыцыйна расказвае, што за гэты тыдзень адбылося ў Беларусі і свеце: забарона беларускага ўрада, змена кіраўнікоў дзяржаў і іншыя навіны чытайце ў нашым дайджэсце.**

### Урад забараніў вываз пшаніцы, грэчкі, кукурузы

Урад пастановай Савета Міністраў ад 14 красавіка ўстанавіў часовую забарону на вываз пшаніцы, жыта, ячменю, аўса, кукурузы, грэчкі, проса, трыцікале і іншага збожжа.

Забарона будзе дзейнічаць на вываз гэтых тавараў за межы Беларусі ў краіны ЕАЭС незалежна ад краіны паходжання і за межы ЕАЭС пры іх змяшчэнні пад мытныя працэдуры экспарту, часовага вывазу, перапрацоўкі па-за мытнай тэрыторыі і рээкспарту. Забарона не будзе распаўсюджвацца ў выпадку іх вывазу для аказання міжнароднай гуманітарнай дапамогі па рашэнні ўрада, а таксама ў якасці харчоў, перамяшчэння ў рамках міжнародных транзітных перавозак.

**Паводле pravo.by.**

### Лукашэнка абвінаваціў амерыканскія спецслужбы ў замаху на яго і сыноў

17 красавіка падчас суботніка **Аляксандр Лукашэнка** распавёў, за што затрымалі палітолага **Аляксандра Фядуту**, апазіцыйнага палітыка **Рыгора Кастусёва** і юрыста **Юрыя Зянковіча**. Паводле яго слоў, яны былі датычныя да планавання замаху на яго і яго сыноў. Лукашэнка абвінаваціў у датычнасці да гэтага і амерыканскія спецслужбы.

Дзяржаўны дэпартамент назваў заявы Лукашэнкі лжывымі.

**Аддзел інфармацыі.**

### Ціма Беларускіх атрымаў два гады дамашняй «хіміі»

Беларускага музыканта **Цімафея Марозава** (творчы псеўданім – Ціма Беларускіх) асудзілі на два гады дамашняй «хіміі» па частцы 1 артыкула 328 «Незаконнае без мэты збыцця захоўванне наркатычных сродкаў».

Марозава затрымалі 6 студзеня ў гульнявым клубе ў Мінску. Пры аглядзе ў яго знайшлі гашыш і амфетамін.

**Паводле tut.by.**

### Рауль Кастра больш не лідар Кубы

З'езд Камуністычнай партыі Кубы пастанавіў абраць першым сакратаром **Мігеля Дыяс-Канэля**, які змяніў на гэтым пасту **Рауля Кастра**.

У 2018 годзе Рауль перадаў Дыясу-Канэлю прэзідэнцкае крэсла. Рауль Кастра кіраваў Кубай пасля смерці свайго брата Фідэля ад 2011 года.

**Паводле bbc.com.**

### Чэхія выслала 18 расійскіх дыпламатаў

Улады Чэхіі аб'явілі аб высылцы 18 супрацоўнікаў расійскага пасольства, якіх ідэнтыфікавалі як агентаў Галоўнага ўпраўлення Генштаба і Службы знешняй разведкі Расіі пад дыпламатычным прыкрыццем.

Па заяве МУС Чэхіі, расійскія спецслужбы датычныя да выбухаў на складах боепрыпасаў у вёсцы Врбеціцэ ў Злінскам краі на паўднёвым усходзе Чэхіі.

**Паводле meduza.io.**

# Шэраг аб'ектаў у рэгіёне могуць аддаць у карыстанне

## Але ёсць важная ўмова

**У Мінскай вобласці бязвыплатна могуць даць 37 аб'ектаў нерухомасці пад стварэнне працоўных месцаў, паведамляецца на афіцыйным сайце Мінаблмаёмасці.**

У пералік уключаныя будынкі старых школ, дзіцячых садкоў, клубаў і бібліятэк, што знаходзяцца пераважна ў сельскай мясцовасці.



Фота Паўла САДОЎСКАГА, realt.by.

Закінуты санаторый «Плёсы».

### Вілейшчына

У Вілейцы прапануюць пад бязвыплатнае карыстанне вучэбны корпус па вуліцы 1 Мая, д. 80. У Вілейскім раёне ў пераліку ёсць два будынкі дзіцячых садкоў. Адзін з іх знаходзіцца ў вёсцы Мільча ў Даўгінаўскім сельскім Савеце, другі – у вёсцы Забалацце ў Ільянскім сельскім Савеце. Будынак сельскага Дома культуры аддаюць у бязвыплатнае карыстанне ў вёсцы Карпавічы на Вілейшчыне.

### Валожыншчына

На Валожыншчыне прапануюць тры пазіцыі: будынак школы ў вёсцы Камень, будынак Івянецкага міжшкольнага вучэбна-вытворчага камбіната працоўнага навучання і прафесійнай арыентацыі, будынак былога дзіцячага садка ў аграгарадку Вішнева.

### Маладзечаншчына

На Маладзечаншчыне існуюць дзве прапановы. Першая пазіцыя – гэта вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы садагульнаадукацыйная сярэдняя школа Маладзечанскага раёна. Будынак знаходзіцца ў вёсцы Пекары Гарадзілаўскага сельскага Савета. Другі аб'ект у пераліку – гэта комплекс аб'ектаў санаторыя-прафілакторыя «Плёсы». Ён знаходзіцца паблізу вёскі Чарчонава ў Мясоцкім сельскім Савеце.

У мінулым годзе ў бязвыплатнае карыстанне на пяць год з умовай стварэння пяці працоўных месцаў далі таварыству з абмежаванай адказнасцю будынак у вёсцы Асіпавічы ў Вілейскім раёне. Была адкрытая крама рознічнага гандлю, там жа фасуюцца крупы для далейшай рэалізацыі.

**Настасся УТКІНА.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**39,9**

столькі працэнтаў плошчы Беларусі займаюць лясы

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.04 | 22.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6145 | **2.5980** |
| Еўра | 3.1245 | **3.1209** |
| Злоты, 10 | 6.8568 | **6.8495** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4537 | **3.3814** |
| Грыўня, 100 | 9.3601 | **9.2328** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **15.04** | **22.04** |
| Еўра | 3.0900/3.1700 | **3.0800/3.1600** |
| Долар ЗША | 2.5900/2.6600 | **2.5600/2.6300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 14.04 | 21.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,90 | **22,90** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,25 | **4,30** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,00 | **5,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,00 | **4,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,40 | **2,40** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,60 | **2,60** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,60** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста маладая, 1 кг | 3,30 | **3,20** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 4,80 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Радыс, 1 кг | 5,90 | **6,00** |
| Салата, пучок | 0,75 | **0,75** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля-сявок, 1 кг | 7,00 | **6,00** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,90 | **3,70** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Грушы, 1 кг | 4,80 | **2,90** |
| Клубніцы, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Скралі самакат і бегавел. Падазраванага затрымалі

МАЛАДЗЕЧНА

На мінулым тыдні на лінію «102» у аператыўна-дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС звярнуўся 29-гадовы гараджанін. Мужчына растлумачыў, што жонка з двума дзецьмі пакінулі самакат і бегавел ля ўвахода ў краму на Вялікім Гасцінцы, а вярнуўшыся праз пяцьдзесяць хвілін, не знайшлі свае рэчы на месцы. Самакат і бегавел яны не прышпілілі.

Міліцыянеры на месцы вывучылі запісы камер відэаназірання паблізу крамы. У аб'ектыў трапіў невядомы мужчына ў цёмнай вопратцы з капюшонам, які нёс у руках прадметы, падобныя да скрадзеных рэчаў. Аператыўнікі накіраваліся па меркаваным маршруце зламысніка.

Хутка ў дварах шматпавярховых дамоў па вуліцы Крынічнай міліцыянеры ўбачылі падобнага грамадзяніна. Ён меў прыкметы алкагольнага ап'янення і заснуў проста на вуліцы. Для далейшага разгляду падазраванага – 54-гадовага ўраджэнца Гомельскай вобласці – даставілі ў РАУС. Фігурант так і не змог выразна растлумачыць, навошта прыхапіў з сабой дзіцячыя рэчы.

Падчас далейшых аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў міліцыянеры высветлілі, што ўсё выкрадзенае падазраваны прадаў незнаёмцу, які займаецца скупкай металалому. За дзіцячы самакат і бегавел мужчына атрымаў два рублі і бляшанку тушонкі.

Скрадзенае міліцыянеры канфіскавалі і пасля правядзення неабходных працэсуальных дзеянняў вернуць законным уладальнікам.

**РАУС Маладзечна.**

## Бацька пакінуў малую дачку ў доме знаёмай, якая зладзіла застолле

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне мужчына пакінуў дачку ў знаёмай, якая зладзіла ў сябе дома застолле. У дзіцячы сад дзяўчынку прывезла міліцыя.

Мужчына адзін выхоўвае маленькую дачку. Па яго словах, ён не падазраваў, што жанчына, у якой пакідае дзяўчынку, зладзіць застолле. Сам мужчына пайшоў на працу, а дзяўчынка засталася ў доме ў той жанчыны.

У дзень здарэння ў Маладзечанскі РАУС патэлефанавала 36-гадовая жанчына і сказала, што не можа выправадзіць госця з застолля. Супрацоўнікі міліцыі прыбылі на месца, там выявілі мужчыну ў стане моцнага алкагольнага ап'янення.

У суседнім пакоі знайшлі чатырохгадовую дзяўчынку. Міліцыянеры высветлілі яе імя, пасля адвезлі ў дзіцячы сад.

Пра здарэнне супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС праінфармавалі органы апекі. Цяпер праводзіцца праверка.

**РАУС Маладзечна.**

## Спрабаваў даць хабар супрацоўніку мытні

АШМЯНЫ

Грамадзянін Кыргызстана спрабаваў даць хабар супрацоўнікам Гродзенскай рэгіянальнай мытні. Мужчыну прыцягнулі да крымінальнай адказнасці і дэпартавалі з Беларусі.

Здарэнне адбылося ў пункце пропуску «Каменны Лог», які знаходзіцца на Ашмяншчыне. Злачынец працаваў кіроўцам фуры. Ён перадаў пашпарт, у якім было 50 еўра, мытніку, які праводзіў кантроль.

Пасля грамадзянін Кыргызстана сцвярджаў, што перадаў грошы, каб яго фуру не правяралі.

Мужчыну прыцягнулі да крымінальнай адказнасці па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса:

- частка 1 артыкула 14 «Замах на злачынства»;
- частка 1 артыкула 431 «Дача хабару».

Яго пакаралі трыма месяцамі арышту з дэпартацыяй.

**Гродзенская рэгіянальная мытня.**

## На вуліцы Мядзельскай цалкам згарэў хлеў

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта паведаміла карэспандэнту старшы інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Дыяна Жалязняк**.

– Пра пажар маладзечанскім выратавальнікам паведамілі 19 красавіка, каля пяці раніцы. Гарэла гаспадарчая пабудова на вуліцы Мядзельскай, – расказала інспектар.

Па словах спецыяліста, хлеў згарэў цалкам. Людзі не пацярпелі. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота zoom.ru.

У мамы немаўляці ўжо ёсць дзеці. Аднак яна пазбаўленая бацькоўскіх правоў.

# Міліцыя забрала чатырохмесячнае дзіця ў п'яных бацькоў

**Ноччу з 20 на 21 красавіка на мабільны тэлефон участковага інспектара міліцыі патэлефанавалі жыхары аднной з вёсак Маладзечанскага раёна. Занепакоеныя вяскоўцы расказалі, што па вуліцы ходзяць на выгляд нецвярозыя грамадзяне з грудным дзіцем на руках.**

МАЛАДЗЕЧНА

Па ўказаным адрасе выбылі міліцыянеры, у тым ліку і супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС.

У двары прыватнага дома міліцыянеры заўважылі мужчыну і жанчыну з відавочнымі прыкметамі алкагольнага ап'янення – бацькоў дзіцяці. Дзіця было ў доме, ляжала на матрацы ў халодным памяшканні. Малога нібыта даглядала бабуля, якая, як аказалася, таксама была п'яная. У доме назіралася антысанітарыя, дзіцячага харчавання не было.

Міліцыянеры выклікалі брыгаду хуткай медыцынскай дапамогі, якая шпіталізавала дзіця для абследавання і неабходнай медыцынскай дапамогі.

Інспекцыя па справах непаўналетніх накіравала ў органы апекі адпаведныя звесткі.

Інцыдэнт адбыўся на наступны дзень пасля вызвалення маці з месцаў пазбаўлення волі. Некалькі гадоў таму рашэннем суда жанчыну пазбавілі бацькоўскіх правоў на сына і дачку, таксама яна не раз была абвінавачаная ў бадзяжніцтве, злоўжыванні спіртнымі напоямі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Асудзілі грамадзяніна Літвы і Расіі за перавоз какаіну

АСТРАВЕЦ

20 красавіка суд Астравецкага раёна разгледзеў крымінальную справу ў дачыненні да грамадзяніна Літвы і Расіі. Мужчыну абвінавачвалі па двух артыкулах – за незаконны абарот наркотыкаў і незаконнае іх перамяшчэнне праз мяжу.

Згодна з абвінавачаннем, мужчына купіў у невядомых у Бельгіі тры кілаграмы какаіну, збіраўся прадаць наркотыкі ў Расіі. Какаін схаваў у асабістых рэчах у салоне грузавога аўтамабіля. У верасні мінулага года абвінавачаны ехаў з Літвы праз Беларусь і ў пункце пропуску «Катлоўка» пры даглядзе ў яго знайшлі наркотыкі.

У судзе абвінавачаны прызнаў віну цалкам.

Суд Астравецкага раёна прызнаў яго вінаватым па двух артыкулах. Яму прызначылі пакаранне тэрмінам 12 гадоў у калоніі ўзмоцненага рэжыму. Таксама мужчына атрымаў штраф у памеры 5800 рублёў.

Прысуд у законную сілу не ўступіў. Ён можа быць абскарджаны.

**Прэс-служба Гродзенскага абласнога суда.**

## На пажары загінула жанчына. Яе сына паспелі выратаваць

АСТРАВЕЦ

Пра пажар у Астраўцы, у жылым доме на вуліцы Слабодка, выратавальнікам паведамілі 19 красавіка ў 5:30.

На месцы пажару знайшлі труп 55-гадовай гаспадыні дома. Работнікі МНС выратавалі 32-гадовага мужчыну – сына гаспадыні. Яго шпіталізавалі з атручэннем прадуктамі гарэння.

Прычыну пажару высвятляюць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Скралі настойку і выпілі

МАЛАДЗЕЧНА

Днямі ў міліцыю Маладзечна на лінію 102 патэлефанавала старшы касір дыскаўнтэра бытавой хіміі на вуліцы Скарыны. Яна паведаміла, што двое невядомых схапілі са стэлажа некалькі бутэлек спіртнога і, схаваўшы скрадзены тавар, уцяклі. На месца здарэння выбылі міліцыянеры.

Яны апыталі работнікаў дыскаўнтэра, вывучылі запісы камер відэаназірання. На кадрах відаць, як у краму зайшлі мужчына і жанчына, якія адразу ж уздоўж гандлёвых радоў накіраваліся ў віна-гарэлачны аддзел. Там са стэлажа ўзялі, па падліках прадаўца, тры бутэлькі настойкі: дзве мужчына паклаў знаёмай у заплечнік, адну сама жанчына схавала за пазуху. Пасля пара накіравалася да выхаду з дыскаўнтэра. Аднак работніца крамы заўважыла крадзеж. Персанал паспрабаваў спыніць зламыснікаў. Мужчына, схапіўшы ў жанчыны заплечнік, вырваўся і ўцёк. А фігурантку ўтрымлівала прадавец. Калі ж падышлі да дзвярэй службовага памяшкання, жанчына ўсё ж уцякла.

Крыху больш чым праз суткі затрымалі падазраваных – 32-гадовага маладзечанца і яго 31-гадовую знаёмую. Іх затрымалі дома ў мужчыны. У яго кватэры знайшлі і канфіскавалі пустыя бутэлькі з-пад алкагольных напояў, як мяркуецца, выкрадзеных у дыскаўнтэры. Фігуранты ў зробленым прызналіся і распавялі, што на крадзеж адважыліся, бо ім захацелася выпіць, а грошай не было.

Цяпер фігуранты ў ІЧУ. Дзеянні падазраваных кваліфікаваныя па частцы 1 артыкула 206 КК Рэспублікі Беларусь. Ім пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

# Якія жывёлы водзяцца ў нашых лясах і як іх лічаць

ВІЛЕЙКА

**Якія жывёлы водзяцца ў лясах Вілейшчыны? Хто і як займаецца іх падлікам? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да вядучага інжынера па паляўнічай гаспадарцы Вілейскага доследнага лягаса Юрыя Самуйлава.**



Узбярэжжа ракі Іліі. Бабры тут дакладна былі. Толькі вось колькі?

### Сляды, карты, фотапасткі

Па назіраннях спецыялістаў, дзікіх жывёл і птушак у параўнанні з мінулымі гадамі ў лясах Вілейшчыны стала крыху больш. Як іх лічаць?

– Па-рознаму, – адказвае Юры Аляксеевіч. – Для тых звяроў, на якіх палююць у Беларусі, ёсць два асноўныя метады – зімовы маршрутны і анкетны.

> Зімовы маршрутны – гэта метад, калі жывёл зімой лічаць па слядах на снезе. Калі ж зіма бясснежная, звяроў можна падлічыць на падкормачных пляцоўках, якія мы ладзім у лесе.

Другі метад – анкетны. Кожны егер назірае за жывёламі на сваім участку на працягу года, пасля чаго запаўняе анкету, дзе пазначае колькасць. Акрамя гэтых двух метадаў, можна выкарыстоўваць яшчэ адзін спосаб – карціраванне. Выдаецца загад, егеры ў Вілейскім доследным лягасе атрымліваюць дзённікі і карты, дзе пазначаюць месцы сустрэчы з жывёламі, – адзначае спецыяліст.

Для падліку можна выкарыстоўваць і фотапасткі. Часам іх усталёўваюць на падкормачных пляцоўках. Тады для назірання і падліку жывёл не трэба шмат людзей.

Згаданымі метадамі лічаць ласёў, аленяў, казуль.

> А для таго каб аленя здабываць як трафей на паляванні, трэба правесці ўлік па галасах у час гону.

### Навошта слухаць аленяў і глушцоў

Падчас шлюбнага перыяду алені падаюць галасы, выклікаючы такім чынам адзін аднаго на турнірныя баі. Гэта і выкарыстоўваюць для падліку.

– Нашы работнікі выязджаюць ва ўгоддзі, дзе водзяцца алені, расстаўляюцца ў пэўных месцах і лічаць самцоў аленяў па гэтых гуках – рову. Падобным чынам лічаць глушцоў – слухаюць, колькі птушак прылятае на ток і такуе, – тлумачыць Юры Аляксеевіч.

> А каб палічыць бабра, праводзяць улік іх паселішчаў і наносяць тыя месцы на карту.

Калі колькасць жывёл становіцца аптымальнай, работнікі лягаса стараюцца трымаць гэту лічбу на адным узроўні. Сочаць, каб колькасць не толькі не паніжалася, але і не павышалася.

### Хто дзе любіць жыць

Па словах суразмоўцы, кожны від жывёл выбірае сваё асаблівае месца ў лесе.

> Лось летам любіць больш забалочаныя месцы, зараснікі вярбы, дзе можна схавацца ад камароў. А зімой жывёлы выходзяць у сасновы лес.

Алень вясной і летам любіць ліставыя лясы. А зімой выбірае лясы з чарнічнікам. Часта выбар месца звязаны з размяшчэннем падкормачных пляцовак.

### Ёсць ваўкі, мядзведзі, рысі

Па словах Юрыя Аляксеевіча, у лясах Вілейшчыны часцей сустракаюцца лось, казуля, алень.

> А вось воўк, мядзведзь, рысь – рэдкія жывёлы на Вілейшчыне.

І ўсё ж рысі часам трапляюць у фотапасткі, а ваўкоў можна сустрэць ля падкормачных пляцовак, куды прыходзяць харчавацца алені.

Дакладную ж колькасць жывёл у Вілейскім доследным лягасе будуць ведаць бліжэй да канца месяца. Спецыялісты абяцалі падзяліцца лічбамі з карэспандэнтамі.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Пачаўся нераст судака

**Нераст рыбы – гэта асаблівы перыяд у жыцці водных насельнікаў, найважнейшае звяно ў жыццёвым цыкле рыб. Нераст забяспечвае ўзнаўленне і бесперапыннае абнаўленне відаў.**

Большасць рыб, якія жывуць у нашых вадаёмах, нерастуе вясной, таму ў гэты перыяд уводзяцца асаблівыя ахоўныя меры.

У адпаведнасці з пунктам 105 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 8 снежня 2005 года №580 у рэдакцыі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 5 снежня 2013 года №551, у рыбалоўных угоддзях Беларусі ад 15 красавіка да 30 мая ўстанаўліваецца забарона на лоўлю судака, каб захаваць папуляцыю і стварыць спрыяльныя ўмовы для яго размнажэння.

За незаконную канфіскацыю судака ў названы перыяд часткай 1 артыкула 16.25 КаАП Рэспублікі Беларусь прадугледжаная адказнасць. Парушэнне цягне накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 30 базавых велічынь (ад 290 да 870 рублёў).

За кожную незаконна здабытую рыбіну парушальнікі правілаў абавязаны будуць пакрыць прычыненую прыродзе шкоду па патройнай таксе – 18 базавых велічынь, або 522 рублі. Калі памер шкоды перавысіць сто базавых велічынь, парушальніка могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Калі вы сталі сведкам фактаў браканьерства, просім паведамляць у Маладзечанскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету па адрасе: **Маладзечна, вуліца Замкавая, 15** альбо па тэлефонах: **8 (0176) 778375, 375-29-6689083 (А1)**.

**Аляксандр БЯЛЬКО,**
**Маладзечанская інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Markdown

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель Вектра В, універсал, 2,0 дызель, 1997 г.в., 5900 рублёў, торг. Т. (8-029) 7541559.*

• Сітраэн С4 (11), аўтамат, 1,6 л, бензін,112 000 км, седан. Камплект зімовых шын і дыскаў у падарунак. Т. (8-029) 3322133, (8-029) 7602067.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029)5524004.*

• Аўтамабіль. Можна з дэфектамі. Т. (8-029) 8794563.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на ходу. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл М-62, МТ-9, К-750, запчасткі. Т. (8-029) 7539459.

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

• Стары матацыкл, каляску да матацыкла, запчасткі. Т. (8-029) 6590477.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая прасторная кватэра з еўрарамонтам ў новым цагляным доме. Цэнтр Маладзечна. Т. (8-029) 6432652.

• 4-пакаёвая кватэра ў пас. Партызанскі альбо абмяняю на жыллё ў рысе горада. Даплата. Т. (8-033) 6795132.*

• Дом 98 кв.м і 20 сотак прыватызаваных у в. Порса Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом №32 у вёсцы Сукневічы, 6 км ад Смаргоні, 45 сотак, лазня чыставая, гараж, кладоўка, вялікая гаспабудова (сарай), склеп, калодзеж, каналізацыя, падводзіцца газаправод. 23600 рублёў. Т. (8-029) 9568511, (8-029) 7850424.

• Дом драўляны ў с/т «Магістраль» в.Лазавец. Т. (8-029) 6243966.*

• Дом у аграгарадку Ілья. Агульная плошча – 90 кв.м. Чатыры пакоі, кухня, сан. вузел раздзельны. Вялікі ўчастак, сад, хлеў з блокаў, развітая інфаструктура. Кошт – 78 000 рублёў. Т. (8-033) 3103610.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Забрэззе Валожынскага раёна, 45 кв.м, 90 км ад Мінска. Побач лес, рэчка. Т. (8-044) 5407260 А1, (8-0176) 523885 дамашні.

• Дом у в. Кучкі Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 5776967.*

• Дом у Валожынскім раёне. Т. (8-033) 3142808, (8-029) 2795589.

• Дом у г. Ашмяны. Гараж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 1271918.*

• Дом у Макаўі Вілейскага раёна. Т. МТС (8-029) 7677518.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Кватэру з усімі выгодамі ў 2-кватэрным доме. Участак. Пабудовы. Т. (8-029) 7609173.

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Чыстка, рамонт калодзежаў. Домікі на калодзеж. Каналізацыя пад ключ. Растэрміноўка плацяжу. Пуховіч А.В. УНП 591815033 Т. (8-029) 9188866.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Бензапіла «Штыль-361». Т.(8-033) 3209136.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Крытае гандлёвае месца на рынку ў Маладзечне, 12 кв.м. Т. (8-033) 6028112 МТС.*

• Павільён у Маладзечне, 24 кв.м. Т. (8-029) 7642123.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898 А 1.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу. Т. (8-029) 7642123 МТС.*

• Бульбу. Т. (8-029) 8603066, Наташа.*

• Цыскі любыя. Т. (8-029) 8794563.*

### АДДАМ

• Аддам трумо (тумба з люстэркам) у добрыя рукі. Колер карычневы, паліраванае. Т. (8-029\0 6458473.*

• Аддам шчанят, сярэдняга росту і злосці, сумесь аўчаркі, 2 шт., у клапатлівыя рукі. Крэўскі с/с, Смаргонскі р-н. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Будаўнікі для рамонце цаглянага дома ў в. Забрэззе. Т. (8-029) 6162240.

• Пакаёўка (горнічная) 1-2 разы на тыдзень. Т. (8-029) 6130457.*

• Памочнік па гаспадарцы з пражываннем. Т. (8-029) 6130457.*

• Повар, афіцыянт для розных мерапрыемстваў. Т. (8-029) 6130457.*

• Праектнай арганізацыі патрабуюцца канструктары, В і К, генпланіст. Т. (8-033) 6322767.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Кладка печаў, камінаў. Дэмантаж. Фундамент. Т. (8-029) 3279874.

• Шукаю работу па замене ў старых драўляных дамах ніжніх вянцоў. Рамонт фундаментаў, дахаў. Т.(8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*

# Маладзечанка перамагла ў нацыянальным конкурсе выцінанак

МАЛАДЗЕЧНА

**У намінацыі «Дрэва жыцця» нацыянальнага конкурсу «Юныя майстры» дыплом 1 ступені атрымала Вераніка Юхнавец, навучэнка аб'яднання па інтарэсах «Народныя крыніцы» маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік».**



Фота з сайта uomok-dpo.by.

Вераніка Юхнавец са сваім творам.

Рыхтавала дзяўчыну педагог **Вольга Юр'еўна Маслава**. Яна ж, дарэчы, правяла падчас конкурсу майстар-клас для педагогаў «Мастацтва выцінанкі: выхаванне праз творчасць».

Конкурс зладзілі 14 красавіка ў рамках 19 рэспубліканскай выставы навукова-метадычнай літаратуры, педагагічнага досведу і творчасці навучэнскай моладзі.

Выцінанка – (абласныя назвы выразанка, выстрыганка) – ажурны ўзор, выразаны з белай, чорнай ці каляровай паперы. Від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У беларускай культуры найбольш пашыраныя аднаколерныя выцінанкі. Узоры геаметрычныя, раслінныя. У Беларусі ў 19 – першай палове 20 стагоддзяў выцінанкі ўжываліся для афармлення жылля, выкарыстоўваліся як частка аздаблення інтэр'ера на святы. На захадзе Беларусі чорнымі ці паліхромнымі выцінанкамі ўпрыгожвалі беленыя сцены жытла. У наш час матывы і прыёмы выцінанкі пашыраныя ў афармленні кніг, упаковак, паштовак. Ад 1970-х гадоў пачынаецца паступовае адраджэнне цікавасці да выцінанкі. Народны майстар Вікторыя Чырвонцава першай стварыла трывалую сістэму навучання майстэрству выразання з паперы спачатку на базе Маладзечанскай дзіцячай мастацкай школы, а затым на аддзяленні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як не парушыць заканадаўства, калі жывяце каля вадаёма

**Патрабаванні да водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб'ектаў пры гаспадарчай і іншай дзейнасці не заўсёды выконваюцца.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Возера Свір у Мядзельскім раёне.

Гэта высветлілі спецыялісты Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету падчас палявых мерапрыемстваў.

Вось якія асноўныя парушэнні:

– самавольная забудова прыбярэжнай паласы водных аб'ектаў. Некаторыя ставяць агароджу да берагавой лініі. Гэта перашкаджае свабодна трапіць да вадаёма. Часам незаконна будуюць іншыя аб'екты;

– парушэнне рэжыму водаахоўных зон і прыбярэжных палос – высякаюць лес, перасаджваюць расліны, забруджваюць і захламляюць тэрыторыі.

> **Нагадваем, што мінімальная шырыня водаахоўнай зоны для вадаёмаў і малых рэк – 500 метраў, вялікіх і сярэдніх – 600 метраў.**

Прыбярэжная паласа – 50 і 100 метраў адпаведна.

**У адпаведнасці з патрабаваннямі Воднага кодэкса нельга:**

– агароджваць зямельныя ўчасткі на адлегласці менш за пяць метраў па гарызанталі ад берагавой лініі. Выключэнне – участкі, выдзеленыя для ўзвядзення і абслугоўвання водазаборных пабудоў, аб'ектаў унутранага воднага транспарту, энергетыкі, рыбалоўных гаспадарак, аб'ектаў лячэбна-аздараўленчага прызначэння, выкарыстанне якіх непасрэдна звязана з выкарыстаннем паверхневых водных аб'ектаў;

– размяшчаць лодачныя прычалы і базы для стаянкі маламерных суднаў за межамі вызначаных для гэтых мэт месцаў, якія вызначаюць мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы;

– на адлегласці да дзесяці метраў па гарызанталі ад берагавой лініі прымяняць усе віды ўгнаенняў і хімічных сродкаў абароны раслін. Выключэнне – іх прымяненне пры выкананні работ, звязаных з рэгуляваннем распаўсюджвання і колькасці дзікарослых раслін агульных відаў;

– апрацоўваць і ўзворваць зямлю. Выключэнне – апрацоўка зямлі для залужвання і пасадкі ахоўных лясоў, а таксама пры правядзенні асобных відаў работ у адпаведнасці з заканадаўствам.

> **У межах прыбярэжных палос і водаахоўных зон дзейнічаюць абмежаванні і забароны, устаноўленыя ў артыкулах 53 і 54 Воднага кодэкса.**

Калі вы з'яўляецеся ўласнікам участка, размешчанага ў межах водаахоўных зон, то звярніце ўвагу: праводзіць работы па добраўпарадкаванні водаахоўных зон, стварэнні элементаў добраўпарадкавання, размяшчаць малыя архітэктурныя формы трэба ў адпаведнасці з заканадаўствам у галіне архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці, аб ахове і выкарыстанні зямель.

За парушэнне рэжыму гаспадарчай і іншай дзейнасці ў водаахоўных зонах і прыбярэжных палосах водных аб'ектаў у адпаведнасці з артыкулам 16.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжаная адказнасць для грамадзян у выглядзе штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да 25 базавых велічынь, на юрыдычную асобу – да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Дзяніс ЧАРТОВІЧ,**
**намеснік начальніка Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Спецыялісты – пра змяненні падыходаў да выплаты датэрміновай пенсіі

**17 студзеня 2020 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ №15 «Аб змяненні ўказаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Дакумент дае дадатковыя пенсійныя гарантыі некаторым грамадзянам.**

А менавіта работнікам, занятым на працы з асаблівымі ўмовамі працы, а таксама даяркам, жывёлаводам, трактарыстам-машыністам, кіроўцам гарадскіх аўтобусаў, работніцам тэкстыльнай вытворчасці, асобным катэгорыям медыцынскіх і педагагічных работнікаў, артыстаў, спартсменаў і іншым спецыялістам.

З прыняццем Указа работнікам з доўгім стажам у асаблівых умовах працы, якія да 1 студзеня 2009 года адпрацавалі не менш за палову неабходнага спецыяльнага поўнага (ільготнага) стажу, даецца права на прызначэнне датэрміновай пенсіі па ўзросце за работу з асаблівымі ўмовамі або пенсіі за выслугу гадоў па Законе «Аб пенсійным забеспячэнні» (артыкулы 12, 13, 15 або артыкулы 47-49, 49.2 адпаведна).

Такую пенсію прызначаюць са сродкаў агульнай пенсійнай сістэмы. Яна фарміруецца з унёскаў на пенсійнае страхаванне – адлічэнні працадаўцаў складаюць у асноўным 28%, работнікаў – 1%. (Падпункт 1.1. Указа №15). Норма, якая змяшчаецца ў падпункце 1.1. Указа №15, уступіла ў сілу з 1 студзеня 2020 года.

Асобы, якія адпрацавалі да 1 студзеня 2009 года не менш за палову спецыяльнага стажу, будуць мець права на прызначэнне датэрміновай пенсіі ў агульнай пенсійнай сістэме. Гэта значыць, пенсію ім прызначаць па правілах, што дзейнічалі да 2009 года.

Ад 1 кастрычніка 2013 года аналагічнае права на пенсію па Законе Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» мелі работнікі, занятыя на працы з асаблівымі ўмовамі.

З уступленнем у сілу Указа №15, перш за ўсё, улічваецца, які стаж выпрацаваны да 1 студзеня 2009 года. Калі не менш за палову патрабаванага поўнага льготнага стажу, то работнік мае права на датэрміновую пенсію са сродкаў агульнай пенсійнай сістэмы. Прычым не важна, колькі адпрацавана пасля 2009 года. Галоўнае, каб у суме атрымаўся патрабаваны для кожнай прафесіі льготны стаж.

Работнікам, якія да 1 студзеня 2009 года адпрацавалі менш за палову спецыяльнага стажу альбо зусім не маюць такога стажу, даецца права:

1) фарміравання датэрміновай прафесійнай пенсіі. Пры гэтым працадаўца будзе выплачваць за работніка ўнёскі на прафесійнае пенсійнае страхаванне ў бюджэт Фонду сацыяльнай абароны;

2) выбару замест датэрміновай прафесійнай пенсіі дадатковай прафесійнай пенсіі, прызначанай па дасягненні работнікам агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту за кошт сфарміраваных пенсійных збераджэнняў, дадаткова да пенсіі па ўзросце;

3) атрымання штомесячнай даплаты да заробку замест названага страхавання. Пры такім выбары работнік атрымлівае дадатковы даход замест права на прафесійную пенсію ў будучыні. Штомесячную даплату работнік атрымлівае на падставе пісьмовай заявы. Яе памер вызначаецца працадаўцам, але не можа быць меншым за суму ўнёскаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне за гэтага работніка.

Каб сфарміраваць у будучым больш высокую пенсію, ад 1 студзеня 2021 года для працадаўцаў павысіліся памеры ўнёскаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне некаторых работнікаў. Менавіта тых, якія заняты на работах з асаблівымі ўмовамі або асобнымі відамі прафесійнай дзейнасці.

**Маладзечанскі райаддзел Мінаблупраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота afisha.tut.by.

# «Чарнобыль»

**Драматычны фільм рэжысёра і прадзюсара Данілы Казлоўскага. Фільм выйшаў у пракат на тэрыторыі Беларусі, яго можна паглядзець у кінатэатрах краіны.**

### Сюжэт

Аляксей Карпушын – звычайны малады савецкі хлопец, пажарны ў Прыпяці. Ён упершыню ў жыцці пачынае будаваць планы на больш доўгі перыяд, чым на выхадныя альбо адпачынак. Карпушын закахаўся ў цырульніцу Волю. У мінулым у іх ужо былі стасункі, але тады ў Аляксея і Волі не атрымаліся доўгатэрміновыя адносіны.

Цяпер у Волі ёсць маленькі сын Лёша, аднак Карпушын намераны ніколі больш не паўтараць мінулыя памылкі. Ён прызнаецца Волі ў сваіх пачуццях, і разам яны плануюць пераехаць да мора.

Аварыя на Чарнобыльскай АЭС ставіць пад пагрозу мару Аляксея і жыцці ўсіх, каго ён любіць. Выбух рэактара пагражае смерцю не толькі тысячам людзей, якія апынуліся ў зоне радыяцыйнага паражэння: магчымы другі выбух, катастрафічныя наступствы якога могуць быць невымерна большыя.

Аляксей адпраўляецца тушыць пажар, а затым пагружаецца пад ядзерны рэактар, каб выпусціць ваду з рэзервуара, тым самым прадухіліць яшчэ адзін магутны выбух.

### Вытворчасць

Фільм атрымаў дзяржаўную субсідыю РФ у 690 мільёнаў рублёў, што склала 100% ад сумы, якая патрабавалася на выдаткі на вытворчасць.

У якасці асноўнай лакацыі была абраная Курчатаўская (Курская) АЭС, якая пачала будавацца праз год пасля Чарнобыльскай АЭС, але была ўведзеная ў эксплуатацыю раней на дзевяць месяцаў, чым ЧАЭС. Астатнія здымкі прайшлі ў павільёнах у Маскве, Будапешце і Харватыі. Здымкі фільма занялі тры месяцы і працягнуліся ад мая да жніўня 2019 года.

### Цікавыя факты

Фільм двойчы мяняў назву. Спачатку яго зарэгістравалі пад назвай «Небяспечная вада», у момант здымак атрымаў іншую працоўную назву – «Калі падалі буслы».

Прадзюсар фільма **Аляксандр Раднянскі** прыняў рашэнне працаваць з Казлоўскім і абраць яго на месца рэжысёра пасля першага дэбютнага рэжысёрскага праекта Данілы «Трэнер».

У фільме паказаны эфект Вавілава-Чырынкова – свячэнне ад зараджаных часціц зруйнаванага рэактара. У рэальным жыцці ён быў больш моцны і больш яскравы, чым паказалі ў фільме.

Сцэну пажару здымалі на тэрыторыі дзейнай атамнай станцыі з удзелам прафесійных пажарных. Узгаранне імітавалі з дапамогай каля 400 вогненных установак. Каб лепш уцягнуць гледача ў падзеі на экране, аператар **Ксенія Серада** здымала сцэну ручной камерай. Да падводных сцэн фільма каманда рыхтавалася некалькі месяцаў.

### Здымачная група

**Прадзюсары:** Аляксандр Раднянскі, Даніла Казлоўскі, Сяргей Мелькумаў, Наталля Катлова.

**Сцэнарысты:** Аляксей Казакоў, Алена Іванова.

**Аператар:** Ксенія Серада.

**Мастакі:** Цімур Шагіахмедаў, Вара Аўдзюшка.

**Рэжысёр:** Даніла Казлоўскі.

**Акцёры:** Даніла Казлоўскі, Аксана Акіньшына, Раўшана Куркова, Артур Бяшчасны, Мікалай Козак, Філіп Аўдзееў, Ігар Чарневіч, Антон Шварц, Андрэй Арчакаў, Марыя Абрамава.

**Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 26 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.20, 18.40, 21.00, 0.40** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Х/ф **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**9.45** «Документальный экран». «Бенедикт Дыбовский. Тайны священного моря».
**10.25** Х/ф **«ВОЗМЕЗДИЕ».**
**12.15** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.50** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.25** «Мульт-парад». «Король лев».
**17.25** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**17.30** Т/с **«ПРИНЦЕССА-НЕДОТРОГА».**
**18.45** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.45** Т/с **«ШТОРМ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«Я СЛЫШУ ГОЛОСА».**
**22.45** Хоррор-комедия «Я иду искать».

### ВТОРНИК, 27 АПРЕЛЯ

**7.00, 18.45, 21.00, 1.00** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 15.20, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Х/ф **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**9.45** «Документальный экран».
**10.15** Х/ф **«ВЕРТИКАЛЬНЫЙ ПРЕДЕЛ».**
**12.30** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.45** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.15** «Погода» +»Эрана».
**15.25** «Мульт-парад».
**17.10** «Дети о еде».
**17.30** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**17.35** Т/с **«ПРИНЦЕССА-НЕДОТРОГА».**
**18.50** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.45** Т/с **«ШТОРМ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ОПАСНО ДЛЯ ЖИЗНИ».**
**22.45** Х/ф **«ОФИЦЕР И ШПИОН».**

### СРЕДА, 28 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.30, 18.45, 21.05, 0.45** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Утиные истории».
**7.30, 15.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Х/ф **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**9.45** «Дети о еде».
**10.00** Д/ф «УКРОТИТЕЛЬ МОЛНИЙ».
**10.50** Х/ф **«ВИКТОРИЯ И АБДУЛ».**
**12.45** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.40** «Мульт-парад». «Тачки».
**17.35** Т/с **«ПРИНЦЕССА-НЕДОТРОГА».**
**18.50** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.50** Т/с **«ШТОРМ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПО ОБЕ СТОРОНЫ».**
**23.10** Х/ф **«ДВОЕ».**

### ЧЕТВЕРГ, 29 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.25, 18.25, 21.00** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Утиные истории».
**7.30, 15.30, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Х/ф **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**9.45** «Удачные советы». Как применять серу на участке.
**10.00** Д/ф «ВТОРАЯ ГОЛГОФА ХРИСТА».
**10.30** Х/ф **«ЛЕГЕНДА».**
**12.45** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.35** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**15.40** «Мульт-парад». «Пушистый шпион».
**17.10** Т/с **«ПРИНЦЕССА-НЕДОТРОГА».**
**18.30** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.30** «Фешн is my профешн».
**19.50** Т/с **«ШТОРМ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ИГРА».**
**23.25** Х/ф **«ТОГО».**
**1.20** «Погода».

### ПЯТНИЦА, 30 АПРЕЛЯ

**7.00, 15.50, 19.35, 21.00, 1.45** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Утиные истории».
**7.30, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Х/ф **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**10.20** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ИГРА».**
**12.40** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.20** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.55** «Мульт-парад».
**17.00** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**17.10** «Готовь как шеф».
**17.25** Т/с **«ПРИНЦЕССА-НЕДОТРОГА».**
**18.35** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.40** Т/с **«ШТОРМ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ДЖОН УИК».**
**22.45** Х/ф **«АВАТАР».**

### СУББОТА, 1 МАЯ

**7.00, 16.35, 19.00, 21.15, 1.35** Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «ДЮЙМОВОЧКА».
**8.30** Х/ф **«ХОРИСТЫ».**
**10.05** «Приколы 13-й школы».
**10.10** «Дети о еде».
**10.30** Х/ф **«ДЕНЬГИ».**
**16.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**16.55** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ: ИМПЕРИЯ НАНОСИТ ОТВЕТНЫЙ УДАР».**
**19.05** Х/ф **«ЕЛЕНА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.20** «Острова».
**23.15** Х/ф **«МАРСИАНИН».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 2 МАЯ

**7.00, 12.25, 20.00, 21.00, 1.15** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.15** «Приколы 13-й школы».
**8.20** Х/ф **«СИНИЙ ЕЖИК».**
**10.00, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**10.05** «Готовь как шеф».
**10.20** Х/ф **«ДНЕВНИК ПАМЯТИ».**
**12.30** «Смотрим всей семьей». «Руслан и Людмила».
**14.05** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ: ВОЗВРАЩЕНИЕ ДЖЕДАЯ».**
**16.15** Х/ф **«МИСС МАРПЛ. ОБЪЯВЛЕННОЕ УБИЙСТВО».**
**19.15** «Суперлото».
**20.05** Т/с **«ПРОЕКТ «СИНЯЯ КНИГА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ДЖОН УИК».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 26 АПРЕЛЯ

**6.30** Х/ф **«2+1».**
**8.30** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**10.00** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**11.50** Единство – в деле.
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**13.35** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**
**15.05** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**
**17.05** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.30** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Х/ф **«ЛЮБИТ! НЕ ЛЮБИТ!».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 27 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 22.15** Мажорный лад.
**8.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК!».**
**10.05** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**13.28** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**15.05** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ ГЕКТОРА В ПОИСКАХ СЧАСТЬЯ».**
**17.05** Х/ф **«РОЖДЕСТВО НА ДВОИХ».**
**19.30** Рядом со звездами.
**20.30** Х/ф **«СЕМЕЙКА АДДАМС».**

### СРЕДА, 28 АПРЕЛЯ

**6.30, 7.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Единство – в деле.
**8.30** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**10.00** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**13.25** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**15.05** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**17.05** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**
**19.30** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 29 АПРЕЛЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.30** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ».**
**10.00** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ОДИН ВДОХ».**
**13.50** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**15.05** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**17.05** Х/ф **«СУПЕРЗЯТЬ».**
**19.30** Будьте здоровы.
**20.30** Х/ф **«БАРМЕН».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 30 АПРЕЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 19.30** Мая Радзіма.
**8.30** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**9.50** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР».**
**13.45** Мультфильмы «ДОБРЫНЯ НИКИТИЧ И ЗМЕЙ ГОРЫНЫЧ».
**15.05** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**17.05** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**18.40, 22.20** Мажорный лад.
**20.30** Х/ф **«НЕВАЛЯШКА».**

### СУББОТА, 1 МАЯ

**6.30, 8.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**9.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ 2».**
**11.00** Х/ф **«ХОЛОП».**
**12.45, 19.30** Свет души.
**13.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**14.50** Х/ф **«М+Ж».**
**16.10** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**17.45** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 2 МАЯ

**6.30** Х/ф **«МАМЫ».**
**8.10** Х/ф **«СТАЖЕР».**
**9.45** Х/ф **«Я ХУДЕЮ».**
**11.30** Х/ф **«УБОЙНЫЙ ФУТБОЛ».**
**13.25** Свет души.
**13.30** Х/ф **«ИРОНИЯ ЛЮБВИ».**
**15.00** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**16.50** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ».**
**18.40** Х/ф **«РАССЕЯННЫЙ».**
**20.10** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**

# нядзеля, 2 мая

## Беларусь 1

**6.05** Слово Митрополита Вениамина на Светлое Христово Воскресение.

**6.15** Х/ф **«ОДЕССКИЙ ПАРОХОД».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ДЕДУШКА».**

**14.25** Один день.

**15.15** Вокруг планеты.

**16.00** «Повод есть».

**16.40, 19.10** Х/ф **«ФОРМУЛА СЧАСТЬЯ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.30** Х/ф **«РОДСТВЕННЫЕ СВЯЗИ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.45** Телебарометр.

**8.05** Х/ф **«ПАВЕЛ, АПОСТОЛ ХРИСТА».**

**9.50** Анимация для всей семьи «Тачки».

**11.45** Анимация для всей семьи «Тачки 2».

**13.25** Анимация для всей семьи «Тачки 3».

**15.00** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**15.50** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**16.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**18.55** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**20.20** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.20** Х/ф **«МОДНАЯ МАМОЧКА».**

**23.25** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.45** Навіны культуры.

**8.20** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень.

**8.35** «Зайчык». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Рыбныя каўбаскі па-забалацку.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Народны майстар». Марыя Кулецкая (маляванка).

**12.10** «Павадыр». Мастацкі фільм СТ.

**14.05 Т/ф «ЛЕАНІДЫ НЕ ВЕРНУЦЦА НА ЗЯМЛЮ».**

**15.45** «Архітэктура Беларусі» СТ.

**16.00** «Паласаты рэйс». Мастацкі фільм.

**17.25** «Кадры жыцця». Тэлевядучы, урач-нейрахірург Аляксандр Цярэшчанка.

**18.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм пяты «Год сорак першы» СТ.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Зялёны фургон». Мастацкі фільм СТ.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Храм Гроба Господня».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** Премьера. «Доктора против интернета».

**10.35** Видели видео?

**11.25** Х/ф **«УКРОТИТЕЛЬНИЦА ТИГРОВ».**

**13.20** «Пасха».

**14.25, 16.20** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ РОЛЬ РИТЫ».**

**16.50** Концерт Надежды Бабкиной.

**18.25** Премьера. Шоу Максима Галкина «Лучше всех!».

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**22.00** Премьера ОНТ: «Зубрилити».

**23.30** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.50** Х/ф **«СОЛНЦЕВОРОТ».**

## СТВ

**6.30, 0.20** «Пища богов».

**9.00** «Добро пожаловаться».

**9.30** «Большой город».

**10.00, 13.40, 16.40** Т/с **«NEXT 2».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.15** Х/ф **«ДЕВОЧКА ИЩЕТ ОТЦА».**

**22.50** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ВОЗВРАЩЕНИЕ МАКСИМА».**

**6.10** Мультфильмы.

**7.45** Х/ф **«ГДЕ НАХОДИТСЯ НОФЕЛЕТ?».**

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15** Т/с **«БАТЮШКА».**

**18.05, 19.30, 1.00** Т/с **«РОСТОВ-ПАПА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** «Города Беларуси».

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.50** «Первая передача».

**11.25** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Х/ф **«МАЙОР ВЕТРОВ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Х/ф **«ЛЕДОКОЛ».**

**22.10** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**22.40** «Звезды сошлись».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«ПАПА ДЛЯ СОФИИ».**

**10.35** Х/ф **«САМАЯ ЛЮБИМАЯ».**

**12.35** Х/ф **«ПРЯНИКИ ИЗ КАРТОШКИ».**

**14.45** ПРЕМЬЕРА. «Аншлаг и Компания».

**16.20** Х/ф **«ИДЕАЛЬНЫЙ БРАК».**

**20.00** ВЕСТИ.

**21.05** «В людях».

**21.50** Х/ф **«ГЕРОЙ».**

**23.50** Х/ф **«БЕРЕГ НАДЕЖДЫ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.00** Спеши любить. **7.40** Питер Пэн. **9.30, 4.00** Имитатор. **11.40** Миссия: Невыполнима. **13.35** Миссия: невыполнима 2. **15.45** Миссия: невыполнима 3. **18.00** Миссия невыполнима: Протокол Фантом. **20.15** Миссия невыполнима: Племя изгоев. **22.30** Миссия невыполнима: Последствия. **1.05** Женщина в чёрном. **2.30** Женщина в чёрном 2: Ангел смерти.

### TV1000 ACTION

**5.10, 15.00** Мексиканец. **7.05** Чужой против Хищника. **8.35** 12 обезьян. **10.50** Бойцовский клуб. **13.15** Большой куш. **17.05** Чёрная дыра. **19.00** Хроники Риддика. **21.15** Риддик. **23.25** Миссия «Серенити». **1.20** Штурм Белого дома. **3.30** Пророк.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** О чём говорят мужчины. Продолжение. **7.15** День радио. **9.10** Гороскоп на удачу. **10.55** Поцелуй сквозь стену. **12.25** Ёлки лохматые. **13.55, 2.30** All inclusive, или Всё включено! **15.35, 4.00** Всё включено 2. **17.20** Везучий случай. **19.05, 20.00, 21.00, 22.00** Шерлок в России. **23.00** Метро. **1.15** Ехали два шофёра.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.30** «Новый день». **9.05, 9.35, 10.05, 10.40, 11.15** «Слепая». **11.45** Х/ф **«ХОББИТ: НЕЖДАННОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ». 15.15** Х/ф **«ХОББИТ: ПУСТОШЬ СМАУГА». 18.30** Х/ф **«ХОББИТ: БИТВА ПЯТИ ВОИНСТВ». 21.15** Х/ф **«БЕЛОСНЕЖКА И ОХОТНИК 2». 23.30** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **1.00** «Последний герой: Внутри последнего героя». **2.15** Х/ф **«ПРОСТАЯ ПРОСЬБА». 4.00, 4.45, 5.30** Т/с **«БАШНЯ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** «Мой личный враг». **12.00, 20.00, 4.00** «Трава под снегом». **13.00, 21.00, 5.00** «Апостол». **14.00, 22.00, 6.00** «Плацента». **15.00, 23.00** «Господа-товарищи. Черный человек». **0.00, 1.00** «Татьянин день». **2.00, 3.00** «Неравный брак». **7.00** «Господа-товарищи. Марафет».

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.25** Х/ф **«МАЛЬЧИК В ДЕВОЧКЕ». 3.05** Х/ф **«МАЛЬЧИКАМ ЭТО НРАВИТСЯ». 4.55** Х/ф **«ВОЗВРАЩЕНИЕ ВЫСОКОГО БЛОНДИНА». 6.25** Х/ф **«ИСПОВЕДЬ НЕВИДИМКИ». 8.20** Х/ф **«ДЕВУШКА ИЗ ДЖЕРСИ». 10.10** Х/ф **«БОЛЬШОЙ ПАПА». 11.50** Х/ф **«С ГЛАЗ – ДОЛОЙ, ИЗ ЧАРТА – ВОН!». 13.50** Х/ф **«БАНДИТКИ». 15.25** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ». 17.20** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ». 19.30** Х/ф **«МЫ – МИЛЛЕРЫ». 21.35** Х/ф **«2+1». 23.45** Х/ф **«ЖИЗНЬ, КАК ОНА ЕСТЬ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.30, 1.30, 2.30, 3.25, 4.15, 5.00, 5.45** Т/с **«СЕРДЦЕ АНГЕЛА». 6.40, 7.40, 8.40, 9.40, 10.40, 11.40, 12.35, 13.35, 23.25** Т/с **«ВТОРОЕ ЗРЕНИЕ». 14.35** Т/с **«ПЛОХИЕ ПАРНИ 2». 17.20, 18.15, 19.05, 19.55, 20.50, 21.40, 22.35** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 1.35** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«КАНИКУЛЫ ДЖОЙ». 14.35** Т/с **«ПОГНАЛИ». 16.10, 21.00, 0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **17.30** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА: РОЗЫСК ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ». 19.10** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА 2: КОГДА ЗОВЁТ ПРИРОДА». 22.35** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **1.05** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.05** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **7.30, 20.20** Легкая атлетика. Чемпионат мира по эстафетам. **10.35** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Седьмой тур. Обзор. **11.20** Пит-стоп. **11.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. ВРЗ (Гомель) – ВитЭн (Орша). **13.50** Футбол. Чемпионат Англии. **15.55** Спорт-микс. **16.05, 21.50** Спорт-центр. **18.05** Вот это спорт! **18.20** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **22.00** Теннис. WTA. Мадрид. **23.50** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.00, 2.30, 4.00, 5.00, 8.00, 9.30, 13.00, 13.50, 18.00** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. 1/2 финала. **1.00, 7.00, 12.00** Велоспорт. «Тур Романдии». Мужчины. Четвертый этап. **6.00** Велоспорт. «Тур Романдии». Мужчины. Третий этап. **11.00** Конный спорт. Большой шлем. Хертогенбосх. Конкур. **14.45, 19.30, 20.45** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Трасса А2. **6.45** Автовинтаж. **7.15** Резьба по стали. **7.40, 9.55, 12.25, 16.35, 18.35, 23.25, 1.10, 3.40** Итоговые новости. **7.55** Испытание на прочность. **8.30** Все включено. **9.10** Сделаем как надо. **9.40, 11.25, 14.40** Автолайф. **10.15, 0.35** Тест с дядей Ваней. **10.50, 14.00, 15.30, 16.55, 18.00** По обе стороны экватора. **11.40, 12.40** Приключения 4х4 в Иране. **13.25, 14.55, 16.00, 17.30, 18.55** Покорители Азии. **19.30, 22.55, 3.10** Возвращение легенды. **20.00, 23.40, 3.55** АВТОбиография. **21.05, 4.40** Эконом-тест. **21.25** Кругосветка по бездорожью. **21.55, 5.20** Советы юриста. **22.40** Обновление. **1.25** Мото тест-драйв. **1.45** Тест на «Драйве». **2.45** Сити-тестер. **4.55** Сравнительный тест.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.25** Речные чудовища. **10.20** Чудовищный карп. **11.10, 23.00** Бирюзовая лихорадка. **11.55, 12.45, 13.30, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.30, 18.15, 19.05, 19.50, 20.35, 21.25, 22.10** Австралийские золотоискатели. **23.45, 0.35, 1.20, 2.10, 2.55, 3.45, 4.30** Дикая Монтана. **5.20** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.05** Невероятные изобретения. **6.30, 7.10, 5.00** Мифические существа. **7.55** Загадки Египта. **8.45, 9.35, 10.20, 1.50, 2.40** Тайны музеев. **11.05** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **12.00** 5000 лет истории Нила. **12.45, 13.40** Вена: империя, династия и мечта. **14.35, 15.25** Очень странные экспонаты. **16.15** Загадка костей: гендерная революция. **17.10, 18.10** История христианства. **19.15, 20.10** В поисках библейской истины. **21.10** Высадка на Луне: величайшая фальшивка в истории. **22.05** Новые тайны терракотовых воинов. **23.00** Невидимый город Рим. **0.00** Вечные Помпеи. **0.55** Ватикан – вечный город наместников божьих. **3.25, 4.15** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 16.35** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб II. **6.55, 15.40** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб. **7.45, 8.35, 9.30** Великие миграции в природе. **10.20** Вскрытие мамонта. **11.10, 12.05** Когда киты ходили по суше. **13.00, 13.55, 14.45** Тайная жизнь слонов. **17.30** Законы Серенгети. **18.25** Мадагаскар, африканский Галапагос. **19.15** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **20.05, 20.55, 21.50, 22.40, 23.35** Речные чудовища. **0.25, 1.15** Невероятные встречи с животными. **2.00** Рассказы о бурях. **2.45, 4.25, 5.15** Выживание в дикой природе. **3.35** В зоопарке Таронга.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 1.30, 5.35** Научные глупости. **6.25, 6.45** Широкий взгляд с Кэлом Пенном. **7.10, 8.00** Панорама 360. **8.55** Дикий тунец. **9.45** Возрождение морского шелкового пути. **10.40** Необычные промыслы. **11.25, 12.20** Activate: глобальное гражданское движение. **13.10, 14.05, 15.00, 22.40, 23.35, 0.35** Морган Фриман. **15.55, 16.45, 17.35, 18.30** Забытые персонажи Библии. **19.20, 20.10** Убийство Иисуса. **21.00** Затерянные города с Альбертом Лином: Потоп. **21.50** Затерянные тайны библии с Альбертом Лином. **2.00, 2.45, 5.00** Авто-SOS. **3.30, 4.15** Национальные парки Америки.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.50, 14.05, 17.55, 22.10, 2.00** Андрей Старков и его команда. **6.30, 10.25, 22.35, 2.30** Охота в Удмуртии. **7.00, 10.55, 14.50, 19.00, 3.00** Нахлыст без границ. **7.25, 11.25, 15.20, 19.25, 23.40, 3.30** Мир рыболова. **8.00, 15.50, 4.00** Рыбалка сегодня XL. **8.30, 12.25, 16.25, 0.40, 4.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **9.00, 13.00, 16.55, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 13.30, 17.30, 21.35, 1.45, 5.30** Готовим на природе. **11.55, 20.00, 0.10** Рыбалка 360. **13.45, 17.40, 21.50, 5.45** Давай зарубимся! **14.35** Кодекс охотника. **18.30** Сам себе охотник. **20.30** Рыболовная школа для взрослых. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.10** Мой мир – рыбалка.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.15, 14.00, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30, 9.20, 14.30, 18.30, 22.30, 2.45** Доктор смузи. **6.45, 22.50** Букварь дачника. **7.00, 11.00, 15.05, 19.05, 23.10, 3.20** Секреты стиля. **7.30, 11.30, 15.35, 19.35, 23.40, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Пучки-пучки. **8.20, 12.40, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.25, 20.40, 0.45, 4.50** Сельсовет. **8.50, 12.55, 1.05** Умный дом. Новейшие технологии. **9.40, 13.25, 17.25, 1.30, 5.30** Мегабанщики. **10.45, 16.40** Куличи. **14.45, 18.45, 3.00** Кашеварим. **16.55, 21.00, 5.00** Милости просим. **21.30** Жизнь в деревне. **2.00** Керамика.

# Як немцы мадэрнізавалі маёнткі на Вілейшчыне

## Марэк Лампрэхт – пра гісторыю сваёй сям'і

*Працяг. Пачатак у №№14, 15.*

ВІЛЕЙКА

**Ад канца 19 стагоддзя на Вілейшчыне жылі і працавалі прадстаўнікі роду Лампрэхтаў. Будавалі ў мясцовых маёнтках заводы і млыны, мадэрнізавалі панскія гаспадаркі. Сёння прадстаўнік роду Марэк Лампрэхт расказвае пра тое, як яго продкі жылі і працавалі ў ваколіцах Ілы.**



Млын у Старой Гуце. 1920-1930 гады.

### Вязынь. Маёмасць разрабаваная, млын спалены

Польшча сустрэла незалежнасць у 1918 годзе з эйфарыяй, але таксама з адсталай эканомікай і вялікімі сацыяльнымі праблемамі. Пра іх маштаб кажа тое, што ў краіне было 11 мільёнаў непісьменных, вялікае беспрацоўе, паўсюдная галеча і паўтара мільёна сірот, якія засталіся пасля Першай сусветнай вайны і іспанскай эпідэміі.

Рыжскі мірны дагавор устанавіў новую пагранічную лінію, якая праходзіла ўсяго ў 15 кіламетрах на ўсход ад Ілы. Пасля цяжкіх баёў усё наваколле было ў руінах. Маёмасць Гецэвіча ў Вязыні была разрабаваная, млын спалены, хутары разбураныя.

### Старая Гута. Тэраса з відам на Ілію

У 1920 годзе Генрыху Лампрэхту было 53 гады. У яго не было сіл і здароўя, каб пачаць рэканструкцыю вялікага маёнтка Гецэвічаў у Вязыні. Таму ён уладкаваўся арандатарам дзяржаўнага млына ў Старой Гуце, каля Ілы. Адрамантаваў яго і стаў млынаром, аказваючы паслугі мясцоваму насельніцтву.

Побач з млынам быў стары дом, дзе сям'я жыла адразу. Але неўзабаве Генрых арандаваў маёнтак Калядзіха, каля Ілы, і пабудаваў побач прыгожы дом для сябе і другой сваёй жонкі **Эвы** (з Эймантаў). Першая жонка, Стэфанія, памерла ад туберкулёзу ў 1918 годзе.

Арэнда была на 45 год. І плаціць арандатару трэба было загадзя, так што гэта былі не малыя выдаткі. З цягам часу дом стаў сямейным гняздом. Вакол быў цудоўны фруктовы сад, а тэраса выходзіла на пакручастую раку Ілію.

Да вайны дзеці Генрыха скончылі пачатковыя школы ў Мінску. Ужо ў незалежнай Польшчы яны вучыліся ў гімназіі імя Сянкевіча ў Вілейцы. Пазней малады Генрых, сын, вывучыўся на спецыяліста па сельскай гаспадарцы ў Віленскім універсітэце. Вярнуўся ў родны край і ажаніўся з **Марыяй Родзевіч**, адной з трох дачок сям'і Родзевічаў, якая жыла ў старым маёнтку Казіміраве.

На мяжы 19 і 20 стагоддзяў сям'я Родзевічаў была высланая ў Сібір. Там сёстры і нарадзіліся.

**У Сібіры загінулі бацькі, але дочкі вырашылі вярнуцца ў незалежную Польшчу любой цаной. Тут яны знайшлі разбураную маёмасць і стары дом.**

Генрых, ажаніўшыся з Марыяй, прывёў Казіміраву да ўзорнага стану.

Два сыны Генрыха-малодшага, **Богдан** і **Багуміл**, усё дзяцінства гулялі з дзецьмі польскіх і беларускіх работнікаў ферм. У дзяцінстве Богдан быў міністрантам у касцёле ў Ілы. Згадваў, што і землеўладальнікі, і сяляне разам удзельнічалі ў набажэнствах.

Генрых спадабаўся мясцовым сялянам. Яны цанілі яго за тое, што паважаў іх працу, дапамагаў і падтрымліваў.

**Ёсць успаміны, як сяляне прыходзілі да Генрыха кансультавацца, калі ў іх хварэлі каровы. Лампрэхт даставаў энцыклапедыю альбо свае сельскагаспадарчыя кнігі, і яны разам шукалі спосаб выратавання.**

**Зофія**, сястра Генрыха, у пачатку 1920-х гадоў з'ехала ў медыцынскі ўніверсітэт у Варшаве. У 1928 годзе абараніла дыплом і стала выдатным доктарам лёгачных захворванняў у шпіталі ў Варшаве. Яна была ўлюбёнкай таты, усе любілі яе за абаяльнасць і гумар. У доме бацькі, у Калядзісе, у яе былі любімыя сабакі – Тухая і Бея. Кожны вольны час яна праводзіла тут.

Малодшая дачка Генрыха-старэйшага, **Яніна**, пасля настаўніцкай семінарыі ў Вільні працавала ў школе ў суседніх Малявічах. Але праз год яна пазнаёмілася з **Вітольдам Буткевічам**, прыгожым мытнікам з Ілы. Яны абвянчаліся ў мясцовым касцёле і з'ехалі. Праз некалькі гадоў пасяліліся ў цудоўным месцы ў Гдыні. Уся сям'я часта прыязджала да іх адпачываць.

У нашай сям'і не толькі Яніна пачынала настаўнічаць на Вілейшчыне. Мая бабуля **Ванда** пасля семінарыі ў Троках працавала ў школе ў невялікай вёсцы Сліпкі. Тут яна сустрэла майго дзеда Лявона, ляснічага, – сына **Караля Лампрэхта**. Іншыя прадстаўнікі роду выкладалі ў школах у Палянах і Калодчыне. Яны ўдзельнічалі ў барацьбе з непісьменнасцю ў сельскай мясцовасці.



Сыны Генрыха-малодшага Богдан і Багуслаў у Казіміраве. 1936 год.

У 1936 годзе Генрых-старэйшы памірае. Яго смерць стала канцом пэўнай эпохі для наваколля. Ён пакінуў пасля сябе шмат каштоўных будынкаў і застаўся ў памяці людзей. Пахаваны побач з маці на могілках у Вязыні. Але сёння ад гэтай магілы не засталося і следу.

Пасля яго смерці сын, Генрых-малодшы, узяў на сябе кіраванне млынам у Старой Гуце. Яго дому ў Казіміраве было ўжо 150 гадоў, і ён быў у дрэнным стане. Таму Генрых-малодшы вырашыў пабудаваць новы дом і назваў яго Макава. Марыў, што тут сям'я правядзе лепшыя гады свайго жыцця. На жаль, мары перапыніла чарговая вайна.

Сын Генрыха, Богдан Лампрэхт, жыве сёння ў Гдыні. Яму 93 гады. Усё жыццё Богдан працаваў на марскіх караблях, дзе стаў капітанам. Менавіта ад яго я збіраю ўсе каштоўныя ўспаміны.

**Марэк ЛАМПРЭХТ,**
**Варшава.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

**23 КРАСАВІКА**

**1974.** Утварылася Найвышэйшая літоўская рада – рэвалюцыйны ўрад ВКЛ падчас паўстання Касцюшкі.

**1886.** Нарадзіўся **Змітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік)**, беларускі пісьменнік. Звязаны з Ільяй і Даўгінавам.

**24 КРАСАВІКА**

**1936.** Нарадзілася **Вера Рыч**, англійская паэтэса, перакладчыца з беларускай і ўкраінскіх моў.

**1944.** Нарадзіўся **Зянон Пазняк**, беларускі палітык і грамадскі дзеяч, археолаг, мастацтвазнаўца.

**1981.** Прадстаўлены першы персанальны камп'ютар IBM.

**25 КРАСАВІКА**

**1868.** Нарадзіўся **Раман Скірмунт**, беларускі і польскі грамадска-палітычны дзеяч, буйны землеўладальнік.



**1991.** Удзельнікі палітычнай стачкі ў Оршы блакіравалі чыгуначны вузел.

**26 КРАСАВІКА**

**1986.** Катастрофа на Чарнобыльскай АЭС.

**27 КРАСАВІКА**

**1878.** Нарадзіўся **Станіслаў Любіч-Маеўскі**, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, педагог, выкладаў гісторыю і геаграфію ў навуковых установах Польшчы, дырэктар гімназій, у т.л. у Вілейцы. Памёр у 1941 годзе ў Мінску.

**28 КРАСАВІКА**

26 год таму выйшаў першы нумар «Рэгіянальнай газеты».

**29 КРАСАВІКА**

**1882.** У Берліне ўвялі ў эксплуатацыю першую ў свеце эксперыментальную лінію тралейбуса.

**1921.** Нарадзіўся **Мікола Ермаловіч**, беларускі пісьменнік, гісторык. Заснавальнік новай беларускай рамантычнай гістарыяграфіі. Жыў і працаваў у Маладзечне. Трагічна загінуў 5 сакавіка 2000 года, трапіўшы пад колы аўтамабіля ў Мінску. Пахаваны ў Маладзечне. У цэнтры горада ў гонар гісторыка ўсталяваны мемарыяльны камень.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Ведаў гісторыю не з падручнікаў

## Што расказала пра Міколу Ермаловіча яго дачка Алена

**29 красавіка споўнілася б сто гадоў гісторыку, пісьменніку і публіцысту, Ганароваму грамадзяніну Маладзечна Міколу Ермаловічу – навукоўцу, які адным з першых пайшоў супраць афіцыйнай савецкай гісторыі і даказаў, што Вялікае Княства Літоўскае было беларускай дзяржавай.**

МАЛАДЗЕЧНА

Дачка Міколы Іванавіча, маладзечанка **Алена Ермаловіч**, расказала нам пра нястомнага гісторыка, руплівага выкладчыка і клапатлівага бацьку.

### Пра першы дзіцячы ўспамін

– З трох гадоў я памятаю ўсё. Да трох – часткова. Маленькай я часта чаплялася да ўсіх з пытаннем «Што такое вясна?». Мне тлумачылі, расказвалі пра птушак і кветкі, але я зноў чаплялася, бо не даходзіла. Тады бацька ўзяў мяне пад паху ўніз галавой, перайшоў дарогу да кусціка, на якім распускалася зялёная галінка, і сказаў: «Вось, глядзі, што такое вясна».

### Пра бацькава выхаванне

– Бацька шмат часу праводзіў з намі. Ён быў інвалідам па зроку, і па інваліднасці пайшоў на пенсію ў 37 гадоў. А мама ад ранку да вечара працавала настаўніцай гісторыі ў вячэрняй школе. Да пяці год, пакуль бацька яшчэ працаваў, з намі была нянька. Садка не давалі, хоць я вельмі хацела ў садок.

**Бацька нас з малодшым братам шмат вадзіў па горадзе. Хадзілі на раку Маладачанку, што каля першай школы ў Маладзечне, глядзелі крыгаход. А яшчэ вучыў шанаваць усё жывое. Напрыклад, ніколі не дазваляў рваць кветкі.**

Неяк мама купіла рыбу, а яна аказалася жывая. Бацька тады нас з братам сабраў, і мы пайшлі і выпусцілі тую рыбу ў вадаём.

З бацькам мы садзілі шмат дрэў. Калі ж пасля Новага года трэба было выкідаць святочную ялінку, я плакала. Тады тата з мамай вось што прыдумалі. Ялінку везлі ў лес, у бок Вілейкі, садзілі ў снег і казалі, што яна вырасце.

Бацька вазіў нас у Малыя Навасёлкі, у Койданаўскі раён, – на тое месца, дзе некалі стаяў яго родны хутар. У той час ужо і падмурка не было амаль відаць. Ездзілі з ім на радзіму мамы – у Смальяны, што ў Аршанскім раёне. Глядзелі руіны старажытнага палаца.

Вельмі любіў бацька і Маладзечна. Мы шмат гулялі сям'ёй. Хадзілі адпачываць у сквер, што па дарозе на Вілейку. Побач быў лужок. Тут гулялі, збіралі суніцы, глядзелі коз і авечак, што пасвіліся тут, фатаграфаваліся. Яшчэ мала ў каго былі фотаапараты, а ў бацькі быў «Зоркі-5». Ён і нас фатаграфаваў, і чужых людзей, якія там гулялі. А потым, падчас наступнага шпацыру, аддаваў фотаздымкі.

### Пра тату, маму і гісторыю

– Бацька пазнаёміўся з мамай, калі разам працавалі ў настаўніцкім інстытуце, які быў у Маладзечне, тады яшчэ абласным горадзе, у 1947-1955 гадах. Бацька быў філолагам па адукацыі, выкладаў беларускую і рускую мовы і літаратуры. Мама выкладала гісторыю.

Мама выдатна ведала свой прадмет. І калі б яна была ў партыі, ёй далі б званне «Заслужаны настаўнік». Але мама ведала афіцыйную гісторыю, а бацька тую, пра якую не пішуць у падручніках.

Гісторыяй ён, філолаг, зацікавіўся, калі яшчэ настаўнічаў у Суражы на Віцебшчыне ў сярэдзіне 1940-х. Ён замяняў настаўніка гісторыі, рыхтаваўся да ўрока і, гартаючы падручнік, зацікавіўся згадкай пра самы старажытны ў Беларусі горад – Полацк.

**Канешне, з дзяцінства я чула дома размовы пра гісторыю. Мама бацьку дапамагала ў працы – друкавала яго творы на машынцы, навучылася адным пальцам.**

А я друкаваць не ўмела. Але калі бацька пісаў сваю кнігу «Па слядах аднаго міфа», я дзяўчынкай-школьніцай ставіла птушачкі над «у нескладовым», бо на машынцы такой літары не было.




Мікола Ермаловіч. Партрэт маладзечанскай мастачкі Алены Кучко.

### Кватэрнае пытанне і адмова ад пераезду ў сталіцу

– У канцы 1950-х настаўніцкі інстытут пераехаў у Мінск. Мы таксама маглі ехаць, але мама не захацела. Трымалася за інтэрнат – невялічкі домік на дзве сям'і. Хоць умовы там былі кепскія. Прыбіральня – на вуліцы, вада – з калонкі. Быў нават грыбок на сценах, ад чаго мы з братам часта хварэлі. Інтэрнат знаходзіўся там, дзе некалі была крама «Крышталь», а цяпер уніяцкая царква. Побач быў і інстытут.

Пасля мы атрымалі цесную двухпакаёўку ў доме, што цяпер на Вялікім Гасцінцы, 74-а. Мама дабівалася лепшай кватэры. Усё ж у сям'і былі два інваліды – бацька і брат.

Да таго ж некалькі год тата працаваў дома – клеіў каробкі для таварыства інвалідаў. Уся кватэра была застаўленая каробкамі. Я ўжо ў той час працавала. А мама і малодшы брат дапамагалі бацьку рабіць каробкі.

Лепшую кватэру атрымалі праз два дамы па той жа вуліцы. З намі па суседству жыў маладзечанскі паэт **Вячаслаў Шнуркевіч**. Усё, што зроблена ў нашай кватэры – перагародкі, сабраная мэбля, – усё рабіў ён. А цяпер на могілках у Лазаўцы пахаваны насупраць майго брата Славіка.

У Мінск у канцы жыцця бацька ўсё ж пераехаў, хацеў жыць бліжэй да Нацыянальнай бібліятэкі. Жыў тут адзін ад 1993 да 2000 года. А каб ён мог больш працаваць, я забрала да сябе хворага брата.

### Пра мовы беларускую і рускую

– Тата заўсёды размаўляў па-беларуску, а мама – па-руску. Я ж – з мамай па-руску, з татам – па-беларуску. Напрыклад, тата пытаецца: «Што гэта?». Я адказваю: «Гузік». Калі ж пытаецца мама, адказваю: «Пуговица».

У шостай школе, дзе я вучылася ў пачатку 1960-х, на той час можна было вызваліцца ад беларускай мовы. І ў выніку ў класе толькі нас з адной дзяўчынкай, **Людай Кісель**, бацькі не вызвалілі ад урокаў беларускай мовы. І мы цэлы год удзвюх хадзілі. І нас кожны ўрок выклікалі. Пасля сказалі, што дзеля нас не будуць трымаць настаўніцу. Далей беларускай мовы не было.

# і радаваўся пенсіі ў 37 гадоў

Дачка Міколы Ермаловіча Алена на адной з акцый у Маладзечне ў жніўні 2020 года.

Карта старажытнай Літвы, намаляваная Ермаловічам.

Фота з Вікіпедыі.

### Мікола Ермаловіч і КДБ

– Праблемы з КДБ праз сваю пазіцыю бацька меў увесь час, асабліва да выхаду на пенсію. Неяк паехаў на культурную імпрэзу, а нам тэлефануюць і кажуць: «Ваш муж мертвецки пьян и находится в вытрезвителе. Делайте что-нибудь». Мы вельмі расхваляваліся, хацелі распытаць. Але невядомыя кінулі трубку. Уяўляеце, як мы хваляваліся? А ўвечары тата вяртаецца, а я да яго з пытаннем: «Ты што, у выцвярэзніку быў». А ён: «Які выцвярэзнік? Што ты, дачушка, вярзеш?».

**А калі тата з мамай ездзілі ў Літву на нейкі літаратурны з'езд, з імі паслалі работніка КДБ. Ён так няўмела сваю місію выконваў, што бацька пра ўсё здагадаўся. І гэта было бясконца.**

Бацька не раз казаў: «Я шчаслівы, што пайшоў на пенсію у 37 гадоў. А Каханоўскага цкавалі да канца жыцця».

Былі праблемы і з выданнем кніг. Але ж творы бацькі разыходзіліся і ў рукапісным выглядзе. Некалі на канферэнцыі, прысвечанай памяці бацькі, **Віктар Шніп** і **Вячаслаў Рагойша** расказвалі, як спрабавалі бацькавы творы набраць у друкарні. А тут – нейкая праверка. Яны тады ўсё праз вокны павыкідалі.

### Праблемы са зрокам

– Амаль невідушчым бацька столькі архіваў з лупай перачытаў, столькі зрабіў для гісторыі Беларусі. А колькі б ён мог зрабіць, каб добра бачыў?

Ад нараджэння вочы ў яго былі здаровыя. Але маці, мая бабуля, узяла яго, яшчэ немаўля, на поле жаць. Нечым прыкрыла. А быў вецер, раскрыў яго, і ён утаропіў вочкі на сонца. Калі маці гэта ўбачыла, панесла да бабкі-шаптухі. Тая яму звонку апёк зняла. Але ж рагавіца была пашкоджаная і станавілася ўсё горш. Вялікія праблемы са зрокам бацьку турбавалі ўсё жыццё. Рабіць аперацыю адмовіўся нават знакаміты доктар Фёдараў у Маскве. Прапаноўвалі дапамогу беларускія эмігранты ў Амерыцы, аднак бацька адмовіўся.

**У выніку аперацыю ў Мінску зрабіла доктар-афтальмолаг Бірыч. Бацьку стала лепш: ён пачаў пазнаваць людзей не па голасе, а па абліччы. А то бывала часта прыходзіў з пабітым ілбом – то ў дрэва стукнецца, то ў слуп.**

### Чаму вучня Ермаловіча выключылі са школы

– Бацька не скончыў школу. Яго выключылі з сёмага класа. І вось за што. З хутара да школы ў Койданава трэба было ісці некалькі кіламетраў. Каб не губляць час, вучань па дарозе вучыў зададзены на памяць верш пра Сталіна. Аднойчы Ермаловіч спатыкнуўся, і кніжка з вершам паляцела ў гразь. А нехта даклаў куды трэба.

### Пра бацькавых сяброў

– Часта ў нашай кватэры былі бацькавы сябры – Генадзь Каханоўскі, **Кастусь Харашэвіч**, пазней – **Міхась Казлоўскі**. З Каханоўскім яны вельмі шмат ездзілі па гістарычных мясцінах. У бацькі быў свой кінаапарат, ён запісваў іх сумесныя вандроўкі. З Каханоўскім, а потым і з Міхасём Казлоўскім неаднойчы ездзілі ў Зэльву, да пісьменніцы Ларысы Геніюш. Каханоўскага памятаю, як добрага і спакойнага чалавека, які часта вазіў дзяцей на экскурсіі па Маладзечаншчыне.

### Як загінуў гісторык

– Дзень смерці бацькі – 5 сакавіка 2000 года. Ён ішоў па вуліцы забіраць газеты з абаненцкай скрыні і трапіў пад маршрутнае таксі. Крыху менш, чым праз суткі, памёр у бальніцы. А кіроўца атрымаў тры гады ўмоўна.

Бацька пахаваны на старых могілках, побач з мамай. Сама, без дапамогі горада, паставіла помнік, які змагла, добраўпарадкавала пахаванне. Пазней на скрыжаванні ў цэнтры Маладзечна з'явіўся памятны камень у гонар Міколы Ермаловіча. 29 красавіка пойдзем туды з аднадумцамі, пакладзём кветкі, запалім лампадкі.

### Пра жнівеньскія падзеі

– Цяпер увесь час думаю пра тое, што б сказаў тата, якому заўсёды так балела за Беларусь, пра той жах, які адбываецца ў Беларусі пасля жніўня.

На мірныя акцыі ў жніўні я пачала хадзіць, калі ад сілавікоў пацярпелі мае добрыя сябры – сын і жонка мастака **Васіля Лазоўскага**. Хадзіць мне цяжка, прыходзіла са складной табурэткай. Была і на пахаванні **Мікіты Крыўцова**. Дарэчы, з пахавання падвёз незнаёмы чалавек. Сказаў, што ведае і мяне, і бацьку ведаў, а на маю просьбу назваць, сказаў, што ён проста «свядомы беларус».

### Ці з'явіцца экспазіцыя, прысвечаная Ермаловічу, у музеі?

– Шмат бацькавых фотаздымкаў і яго кінаапарат з плёнкамі я даўно аддала ў наш Мінскі абласны краязнаўчы музей. Вельмі чакаю, што да стагоддзя ў музеі ўсё ж з'явіцца экспазіцыя. Фотаздымкі – эксклюзіўныя, з часоў працы бацькі ў настаўніцкім інстытуце. Там адзін толькі **Сяргей Грабчыкаў** чаго каштуе. Цяпер гэта вядомы складальнік слоўнікаў, а раней ён разам з бацькам працаваў у Маладзечне.

**Сёння я вельмі ўдзячная тым, хто памятае бацьку, ладзіць у яго гонар імпрэзы.**

Вельмі цёплым атрымалася нядаўняе адкрыццё выставы, прысвечанай Ермаловічу, якую да стагоддзя бацькі правялі маладзечанскія мастакі.

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

**Мікола Іванавіч Ермаловіч** нарадзіўся 29 красавіка 1921 года ў вёсцы Малыя Навасёлкі Койданаўскага раёна. Беларускі гісторык, публіцыст, пісьменнік і паэт. Вучыўся ў Койданаўскай сярэдняй школе, на беларускім аддзяленні літаратурнага факультэта Мінскага педінстытута, дзе да пачатку Другой сусветнай вайны скончыў тры курсы. Быў эвакуяваны і працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Мардоўскай АССР. У 1943 годзе вяртаецца ў Беларусь, дзе працаваў настаўнікам у Суражы Віцебскай вобласці. Ад 1946 годзе давучваецца ў педінстытуце, які заканчвае, а ў 1947—1948 вучыцца ў аспірантуры. У 1948—1955 працаваў старэйшым выкладчыкам беларускай літаратуры ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. Да 1957 загадваў метадычным кабінетам Маладзечанскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў, пасля чаго па стане здароўя выйшаў на пенсію. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў ад 1989 года. Ад 1948 года выступаў у друку з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі, гістарычнымі нарысамі. Вынікам даследчыцкай працы стала ў 1968 годзе кніга «Па слядах аднаго міфа». Далей былі кнігі – «Дарагое беларусам імя», «Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды», у 1994 – «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд», «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае». Ермаловіч – прыхільнік новай беларускай рамантычнай плыні гістарыяграфіі, што супярэчыла афіцыйным савецкім канцэпцыям гісторыі Беларусі. У сваіх творах даказваў, што ВКЛ – менавіта беларуская дзяржава. Працы Ермаловіча паўплывалі на фарміраванне сучаснай грамадскай думкі і гістарыяграфіі Беларусі. Паводле палітычных матываў, галоўныя канцэптуальныя працы Ермаловіча не маглі з'яўляцца ў афіцыйным друку, шмат выходзіла самвыдатам. Большасць з іх пабачыла свет толькі ад часу «перабудовы».

# Як і чым памерацЬ тэмпературу дзіцяці

**Такое пытанне ўзнікае ў кожных мамы і таты, калі ў сям'і з'яўляецца дзіця.**

Усе ведаюць, што для гэтага існуе тэрмометр. Але калі прыходзіш у аптэку, аказваецца, што выбраць правільны градуснік – гэта цэлы квэст. Давайце разам разбяромся, якія ёсць тэрмометры, чым яны адрозніваюцца і якія плюсы і мінусы ў кожнага з тыпаў.

### 1. Ртутныя тэрмометры

Уяўляюць сабой шкляную колбу і капіляр, у якім знаходзіцца ртуць.

+ Дакладнасць.

+ Нізкая цана.

+ Універсальнасць спосабаў вымярэння – у роце, у прамой кішцы, падпахавай упадзіне).

Мінусы:

**– Небяспека атруціцца ртуццю. Амерыканская акадэмія педыятрыі настойліва рэкамендуе не трымаць дома ртутныя тэрмометры.**

– Працягласць вымярэння – аптымальныя лічбы: 7-10 хвілін.

### 2. Электронныя (лічбавыя) тэрмометры

У канструкцыю ўбудаваны адмысловы адчувальны датчык, які вызначае тэмпературу цела. Пасля гэтага вынік выводзіцца лічбамі на экран. Сярод іх вылучаюць:

* **Мультыфункцыянальны** тэрмометр – паказвае тэмпературу таго ўчастка, куды прыкладзены датчык на канцы тэрмометра. Звычайна гэта прамая кішка, рот, падпахавая вобласць. Для вымярэння тэмпературы ў роце і прамой кішцы трэба выкарыстоўваць розныя тэрмометры. Маркіроўка аб пераважным спосабе выкарыстання ёсць на ўпакоўцы.

Плюсы:

+ Прадаецца паўсюль.

+ Просты ў выкарыстанні.

Мінусы:

– Некаторыя мадэлі трэба ўтрымліваць яшчэ некаторы час пасля сігналу.

– Ненадзейны – дае высокую дакладнасць толькі пры ўвядзенні градусніка ў прамую кішку (рэктальны метад).

* **Тэмпаральны** тэрмометр – вылічвае цеплавыя хвалі ад скроневай артэрыі.

Плюсы:

+ Просты ў выкарыстанні.

+ Хуткае вымярэнне.

**+ Можа дакладна памераць тэмпературу і нованароджанаму, і дзіцяці да трох месяцаў жыцця.**

Мінусы:

– Высокая цана.



Бацькам варта вызначыцца, які тып тэрмометра найлепш падыдзе для іх сям'і.

### 3. Інфрачырвоныя тэрмометры

Працуюць па прынцыпе вымярэння тэмпературы інфрачырвонага выпраменьвання, якое ідзе ад чалавечага цела. Сярод іх вылучаюць:

* **Тымпанічны** тэрмометр – вылічвае інфрачырвоныя цеплавыя хвалі ад барабаннай перапонкі. Выкарыстоўваецца для дзяцей ад шасці месяцаў жыцця.

Плюсы:

+ Пры правільнай тэхніцы прымянення – высокая дакладнасць.

Мінусы:

– Высокая цана.

– Неабходная правільная ўстаноўка ў вонкавы слыхавы праход для дакладнага вымярэння – лішак вушной серы, запаленчыя працэсы, анатамічныя асаблівасці пабудовы вонкавага слыхавога праходу скажаюць вынік.

* **Бескантактны інфрачырвоны тэрмометр**

Плюсы:

+ Вымярае тэмпературу на адлегласці чаго заўгодна – чалавека, ежы, паветра, вады.

**+ Хуткасць вымярэння складае пяць секунд.**

Мінусы:

– Калі не захоўваць адлегласць да аб'екта, то недакладны.

– Высокая цана.

### 4. Тэрмометры–пустышкі

Нагадваюць па форме дзіцячую пустышку, толькі ў яе ўмантаваны спецыяльны датчык для вымярэння тэмпературы. Могуць быць латэксныя або сіліконавыя.

Плюсы:

+ Зручна і звыкла памераць тэмпературу дзіцяці з-за формы.

Мінусы:

– Недакладнасць вымярэння, таму што дзіця не можа ўтрымаць яе ў роце патрэбны час – тры-пяць хвілін.

### 5. Тэмпературныя індыкатары/палоскі/налепкі

Яны маюць цеплаадчувальныя элементы.

Плюсы:

+ Проста выкарыстоўваць.

+ Зручна выкарыстоўваць у якасці скрынінга.

+ Хуткасць вымярэння складае адну–тры хвіліны.

Мінусы:

– Недакладнасць вымярэння.

– Складана знайсці ў аптэках.

**Альтэрнатывай дастаткова небяспечным, але дакладным ртутным прыборам з'яўляюцца тэрмометры, дзе замест ртуці выкарыстоўваюць іншы метал – нетаксічны галістан.**

Знешне выглядаюць як ртутныя, але адрозніваюцца зялёнай маркіроўкай, якая азначае, што прыбор бяспечны і экалагічны.

Шаноўныя бацькі, які б тып тэрмометра вы ні выбралі, варта не забываць пра тое, што лячыць трэба дзіця, а не лічбы на градусніку. Нашмат важней, як дзіця сябе адчувае, паводзіць і як выглядае пры павышанай тэмпературы.

**Матэрыял падрыхтавалі Вікторыя ЗАРЫХТА, доктар-педыятр дзіцячай бальніцы Маладзечанскай ЦРБ, Ганна РУБАН, кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт кафедры педыятрыі Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі.**

## Як бацькам зберагчы псіхічнае здароўе дзяцей у час пандэміі

**У стрэсавай сітуацыі дзеці, як правіла, маюць патрэбу ў павышанай увазе.**

Якімі могуць быць вашы дзеянні:

– Па магчымасці захоўвайце заведзены парадак жыцця або стварыце новы, асабліва калі вы павінны заставацца дома.

– Сумленна і адкрыта абмяркуйце з дзецьмі пытанні, якія тычацца новай каронавіруснай інфекцыі, выкарыстоўваючы лексіку, якая адпавядае іх узросту.

– Дапамажыце дзецям у навучанні дома і прасачыце за тым, каб у іх распарадку быў прадугледжаны вольны час для гульняў і адпачынку.

– Падкажыце дзецям пазітыўныя спосабы выказвання эмоцый, такіх, як сум ці страх. Часам у гэтым вам могуць дапамагчы сумесныя творчыя заняткі – гульні або маляванне.

– Дапамагайце дзецям заставацца на сувязі з сябрамі і сваякамі па тэлефоне і праз інтэрнэт.

– Сачыце за тым, каб кожны дзень частку часу дзеці праводзілі ўдалечыні ад экранаў, і вылучайце час для сумесных заняткаў з дзецьмі. Займайцеся творчымі заняткамі: маляваннем, паэзіяй, канструяваннем і іншымі. Спячыце пірог. Займайцеся спевамі ці танцамі або гульнямі ў садзе, калі ў вас ёсць сад.

– Сачыце за тым, каб дзеці не праводзілі больш часу за відэагульнямі, чым звычайна.

**Паводле рэкамендацыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.**

# 130 базавых і 64 суткі агулам атрымалі смаргонцы за вокліч «Жыве Беларусь» у будынку суда

**Напрыканцы сакавіка і да сярэдзіны красавіка ў судзе Астравецкага раёна разглядалі справу смаргонцаў за вокліч «Жыве Беларусь!» у будынку смаргонскага суда ў лютым пасля разгляду крымінальнай справы супраць пратэстоўцаў.**



Іллю Петунова (справа) дэпартавалі і завочна прызначылі двое сутак адміністрацыйнага арышту.

### Пакаранне суда

У судзе Астравецкага раёна асудзілі 10 смаргонцаў па справе аб воклічы «Жыве Беларусь!» у будынку смаргонскага суда.

**Наталля Путырская** – 30 базавых;
**Ніна Шыш** – 30 базавых;
**Людміла Сульжыцкая** – 10 сутак;
**Яўген Новікаў** – 12 сутак;
**Сяргей Трай** – 15 сутак;
**Яўген Мацкевіч** – 15 сутак;
**Ілля Петуноў** – 2 сутак;
**Руслан Валюк** – 10 сутак;
**Марэт Валюк** – 50 базавых;
**Андрэй Маркаў** – 20 базавых;
**Наталлю Ковель** апраўдалі.

### «Жыве Беларусь» у судзе і масавыя затрыманні

18 лютага ў Смаргоні агучылі прысуд **Інэсе Маркавай** і Руслану Валюку па крымінальнай справе за паклёп у дачыненні да міліцыянераў.

**Пасля абвяшчэння ў калідоры суда нехта з тых, хто падтрымліваў Маркаву і Валюка, крыкнуў «Жыве Беларусь!».**

Вокліч пачула старшыня смаргонскага суда **Людміла Пятрова**, якая знаходзілася ў суседняй зале. Па яе просьбе выклікалі нарад міліцыі, які пасля затрымаў некалькі смаргонцаў.

Пасля інцыдэнту ў судзе ў Смаргоні пачалі масава затрымліваць людзей, якія прысутнічалі на працэсе Маркавай і Валюка. Суткі адседзелі Людміла Сульжыцкая, Яўген Новікаў, Сяргей Трай, Ілля Петуноў, **Рамуальд Улан**, Яўген Мацкевіч. Пасля трох сутак у ізалятары іх адпусцілі на волю, а смаргонскі суд накіраваў справы на дапрацоўку.

**За гэты час з Беларусі дэпартавалі Іллю Петунова – ён грамадзянін Расіі. Сына Петунова Цімафея дэпартавалі ў Літву, бо ў яго літоўскае грамадзянства.**

Рамуальд Улан знаходзіцца на «хіміі» ў Гомелі – адбывае пакаранне па крымінальнай справе за распаўсюджванне лжывых звестак у дачыненні да смаргонскіх міліцыянераў.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Педагога асудзілі на 20 базавых за чырвона-белы плед на балконе

## А яшчэ звольнілі з працы

АСТРАВЕЦ

**Сваю гісторыю расказала жыхарка Астраўца Ганна Огур:**

– 25 сакавіка я была на бальнічным. На балконе павесіла сушыць плед. Ён белы з чырвонай паласой пасярэдзіне і чырвонай аблямоўкай па краях. Плед на Новы год падарыла нам маці мужа. Праз дзве гадзіны да нас прыехала міліцыя. Супрацоўнікі зайшлі ў кватэру. Сказалі, што ў нас на балконе незарэгістраваная сімволіка. Муж таксама быў дома, ён працуе па зменах. Спрабаваў спрачацца з міліцыянерамі, даказваў, што плед – гэта не сцяг. Але нам сказалі ехаць у РАУС.

Мужа і жонку дапыталі. На Ганну склалі пратакол за адміністрацыйнае правапарушэнне. Пасля яны паехалі дамоў, а плед і ноўтбук забрала міліцыя. У хуткім часе сілавікі вярнуліся, сказалі Ганне збірацца. Зноў прывезлі ў РАУС і ўжо пакінулі тут на суткі да суда.

– Мяне забралі на суткі, нягледзечы на тое, што ў мяне двое непаўнагадовых дзяцей. І мужу нічога не паведамілі пра маё затрыманне, ён даведваўся сам, – адзначае суразмоўца.

26 сакавіка Ганну судзілі. Прызналі вінаватай у тым, што яна «25 сакавіка ў 8 гадзін на балконе ў дзень падзеі «Дзень волі» правяла адзіночнае пікетаванне шляхам вывешвання бел-чырвона-белай матэрыі».

Астраўчанка атрымала штраф 20 базавых – 580 рублёў.

– А 8 красавіка мяне звольнілі з працы ў дзіцячым садку па артыкуле за амаральныя паводзіны. Я працавала дэфектолагам. Прасіла працадаўцу пачакаць, хаця б пакуль будзе адказ на апеляцыю, якую мы падалі з адвакатам. Але мяне ўсё ж звольнілі.

Цяпер адвакат рыхтуе абскарджанне па прычыне звальнення Ганны, а таксама жанчына падала скаргу на незаконныя дзеянні работнікаў РАУС.

Мы звярнуліся за каментаром у дзіцячыя яслі-сад №1 Астраўца, дзе працавала Ганна.

– Пры звальненні мы ўсё ёй сказалі, аргументавалі. Усё напісана ў яе працоўнай кніжцы, – адказалі нам у адміністрацыі ўстановы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# ФК «Маладзечна» рыхтуецца да сезона ў другой лізе

**16 красавіка карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» наведалі трэніроўку маладзечанскай каманды. «Маладзечна» згуляе ў сезоне другой лігі ўжо 1 мая. Пагутарылі з галоўным трэнерам і паглядзелі, як футбалісты рыхтуюцца да старту.**

У сезоне другой лігі маладзечанцы трапілі ў Мінскі дывізіён, група «Поўнач». 1 мая ФК «Маладзечна» стартуе ў сезоне ў гульні супраць каманды з Беразіно «ФОЦ Лазурный». Каманду будзе трэніраваць **Сяргей Дараховіч**.

На трэніроўцы 16 красавіка, якая праходзіла на стадыёне ў Чысці, прысутнічалі гульцы на праглядзе і тыя, хто дакладна выступіць за «зялёна-белых» у гэтым сезоне.

**Футбалісты адпрацоўвалі прабіццё пенальці, пагулялі на адной палове поля ў футбол, а таксама займаліся фізічнай падрыхтоўкай.**



**Сезон для маладзечанскай каманды пачнецца з гульні супраць каманды з Беразіно.**

Галоўны трэнер ФК «Маладзечна» Сяргей Дараховіч расказаў карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты», што склад каманды гатовы да сезона амаль на 80%. Дараховіч адмовіўся акцэнтаваць увагу на пэўных гульцах, якія будуць выступаць за маладзечанскую каманду ў сезоне-2021.

– Я лічу, што ў сваёй групе мы будзем фаварытамі. Мэта на сезон? Выйсці ў першую лігу, напэўна, – падзяліўся Дараховіч.

Трэнер адзначыў, што пакуль нічога невядома пра саперніка ў першым туры. Дараховіч сказаў, што ведае пра каманду з Беразіно толькі тое, што яна выступала ў чэмпіянаце Мінскай вобласці.

17 красавіка маладзечанскія футбалісты правялі кантрольны спарынг супраць «Астраўца», у якім мінімальна саступілі сапернікам – 0:1.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Смаргонскі дзюдаіст удзельнічаў у чэмпіянаце Еўропы

Ад 16 да 18 красавіка ў Лісабоне, Партугалія, прайшоў чэмпіянат Еўропы па дзюдо. У ім прыняў удзел смаргонскі дзюдаіст **Аляксандр Вахавяк**.

**Вахавяк змагаўся ў катэгорыі звыш 100 кілаграмаў. Смаргонец перамог у першым раўндзе чэха Марыуша Фіцэля, а ў другім – прайграў чэху Лукашу Крпалеку.**

Першае месца заняў расіянін **Інал Тасоеў**, другое – нідэрландзец **Хенк Грол**, трэцяе месца падзялілі паміж сабой грузін **Гурам Тушышвілі** і Лукаш Крпалек.

**Настасся УТКІНА.**

## «Рух» разграміў «Смаргонь»

18 красавіка смаргонцы згулялі супраць «Руху» ў пятым туры вышэйшай лігі чэмпіянату Беларусі.

Футбалісты «Руху» забілі ўжо на першай хвіліне. **Дзяніс Лапцеў** рэалізаваў момант з перадачы **Паўла Савіцкага**. На 9-й хвіліне Лапцеў замацоўвае поспех яшчэ адным дакладным ударам. На 25-й хвіліне Лапцеў дае пас Паўлу Савіцкаму, які робіць лік на табло 3:0 перад другім таймам.

Пасля перапынку, на 65-й хвіліне, Лапцеў робіць хет-трык, а на 82-й у вароты смаргонцаў залятае пяты гол у матчы – гэтым разам ад **Усевалада Садоўскага** з перадачы **Эліса Бакая**.

«Смаргонь» займае апошняе месца пасля пяці тураў у вышэйшай лізе.

**Настасся УТКІНА.**

## Прайшло лёсаванне другой лігі па футболе

16 красавіка ў Доме футбола прайшло лёсаванне чэмпіянату Беларусі ў другой лізе. Нагадаем, што сезон у другой лізе пачнецца 1 мая.

ФК «Маладзечна» будзе гуляць у Мінскім дывізіёне ў групе «Поўнач». У першым туры маладзечанцы згуляюць супраць каманды з Беразіно. У групе «Поўнач» будзе выступаць каманда з Вілейкі «Вілія». У першым туры вілейчукі сустрэнуцца са «Смалявічамі».

У Гродзенскім дывізіёне «Астравец» згуляе супраць «Слонім-Сіці», а «Ашмянскі ФСК» – супраць скідзельскага «ФСК Гродзенскі».

**Настасся УТКІНА.**

## Смаргонка ў складзе «Гарызонта» выйграла чэмпіянат Беларусі па баскетболе

Баскетбалістка са Смаргоні **Юлія Рыцікава** ў складзе «Гарызонта» выйграла чэмпіянат Беларусі па баскетболе сярод жаночых камандаў.

У фінальнай частцы «Гарызонт» гуляў супраць каманды «Цмокі-Мінск». «Гарызонт» перамог у трох матчах запар і ўзяў чэмпіёнскі тытул. Апошні раз прадстаўніцы «Гарызонта» перамаглі ў чэмпіянаце Беларусі ў 2016 годзе. Тады Рыцікава стала самым каштоўным гульцом турніру.

Гэтым разам смаргонка ўвайшла ў пяцёрку лепшых у фінальнай частцы чэмпіянату.

**Настасся УТКІНА.**

## У Еўропе можа з'явіцца новы футбольны турнір

Афіцыйна абвʼяўлена аб стварэнні новага футбольнага турніру – Суперлігі Еўропы. ФІФА выказвае незадавальненне.

– Дванаццаць вядучых камандаў Еўропы сумесна прыйшлі да дамоўленасці аб стварэнні новага турніру – Еўрапейскай Суперлігі. Матчы будуць праводзіцца пасярод тыдня, кіраваць турнірам будуць клубы-заснавальнікі, – гаворыцца ў заяве.

«Мілан», «Арсенал», «Атлетыка», «Чэлсі», «Барселона», «Інтэр», «Ювентус», «Ліверпуль», «Манчэсцер Сіці», «Манчэсцер Юнайтэд», «Рэал» і «Тотэнхэм» увойдуць у Суперлігу як клубы-заснавальнікі. Яшчэ тры каманды далучацца да яе перад пачаткам першага сезона, старт якога адбудзецца тады, калі гэта будзе магчымым.

Клубы-заснавальнікі плануюць абмеркаваць з УЕФА і ФІФА супрацоўніцтва, каб забяспечыць перспектывы для новага турніру.

ФІФА апублікавала заяву аб сувязі са стварэннем Суперлігі Еўропы:

– ФІФА можа выказаць толькі адмоўнае стаўленне да стварэння «закрытай еўрапейскай лігі» па-за рамкамі міжнародных футбольных структур.

Праз два дні пасля абʼяўлення аб стварэнні лігі англійскія клубы заявілі аб выхадзе з яе. УЕФА заявіла, што гульцы клубаў, што ўдзельнічаюць у Суперлізе, не змогуць выступаць у складзе нацыянальных зборных у міжнародных спаборніцтвах.

**Паводле «Трыбуны».**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Краіна, якая гістарычна належыць пэўнаму народу і якую гэты народ насяляе; бацькаўшчына.
3. Асобная рэч, прадмет, экзэмпляр з шэрага аднародных.
6. Прыбор, які ператварае гукавыя ваганні ў электрычныя і служыць для перадачы гукаў на вялікія адлегласці або для ўзмацнення іх.
9. Ян Баршчэўскі: «Аднаго разу ўлетку ў ціхую, пагодлівую ноч з поўначы на поўдзень ляцеў, палаючы агнём, ..., нёс нібыта з сабою шмат золата і срэбра грэшніку, які прадаў д'яблу душу».
10. Які характарызуецца стабільнасцю формы пры нармальных умовах, у адрозненне ад вадкага і газападобнага.
11. Спецыяльная форма для серыйнай вытворчасці розных прадметаў.
13. Металічны або драўляны стрыжань з вастрыём на канцы, прызначаны для змацавання.
14. Раздзел біялогіі, які вывучае ўзаемадзеянне жывёльных і раслінных арганізмаў паміж сабой і з навакольным асяроддзем.
17. Салодкі кандытарскі выраб у выглядзе цвёрдай масы з расцёртага сланечніку, арэхаў.
20. Афіцэрскае званне ў арміі, вышэйшае за званне капітана.
21. Вязкая маса рознай кансістэнцыі, якая атрымліваецца пры змешванні мукі з вадкасцю.
24. Комплекс касметычных працэдур, звязаных з упрыгожаннем твару.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Верхняе дамашняе або рабочае адзенне, якое захінаецца або зашпільваецца.
4. Уласцівая каму-небудзь манера хадзіць; паходка.
5. Частка тэксту або асобныя словы, літары ці іншыя знакі, напісаныя або надрукаваныя ў адну лінію.
6. Тое, што і кукуруза.
7. Парушэнне нармальнай жыццядзейнасці арганізма.
8. Без распівання на месцы продажу.
11. Невялікая тонкая пласцінка, кавалак, адколаты па слаі дрэва.
12. Усходы, пасевы азімых культур.
13. Верхняя частка галавы, а таксама верх чэрапа паміж лобнымі, патылічнымі і скроневымі касцямі.
15. Закончыце выказванне: «Каб сапсаваць адносіны, дастаткова пачаць іх ...».
16. Кулінарная страва выратавалася ад дваіх людзей і трох жывёл. Ад каго ж уцячы не ўдалося?
18. Рэшткі разбуранага збудавання, паселішча.
19. Назавіце прозвішча амерыканскага спартсмена, якога савецкія балельшчыкі ў 1972 годзе называлі «Шыферам».
22. Сукупнасць агульнапрынятых гукавых і лексіка-граматычных сродкаў для выказвання думак і наладжвання сувязі паміж людзьмі.
23. Сумеснае абмеркаванне якіх-небудзь пытанняў.
25. Навука пра рэчывы, іх будову, састаў, уласцівасці і ўзаемныя пераўтварэнні.

## Адказы на крыжаванку з №16

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Сайгак. 3. Сабор. 5. Мозг. 6. Шкада. 8. Купаж. 9. Шаля. 11. Нага. 13. Шалёны. 15. Караван. 16. Шаты. 17. Навес. 18. Язык. 21. Насып. 23. Капля. 24. Экіпаж.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Нагода. 4. Кухар. 7. Самалёт. 8. Кургага. 10. Апетыт. 12. Яшчары. 13. Шар. 14. Ядловец. 19. Салон. 20. Экзагамія. 22. Дазіметр. 24. Эксперт. 25. Савет.

## ● ГАРАСКОП НА 23-29 КРАСАВІКА

**АВЕН.** Нарэшце і на вашай вуліцы наступіць свята! Магчымыя павышэнне па службе, удача ў справах, атрыманне прыбытку. Ідэальны час, каб пачаць рабіць назапашванні.


**ЦЯЛЕЦ.** Вы не зможаце атрымаць грошы, на якія так разлічвалі. Аднак у астатніх сферах жыцця ў вас усё будзе выдатна! У адносінах са сваякамі будзьце стрыманыя, нават калі захочацца даць волю эмоцыям.


**БЛІЗНЯТЫ.** Вам трэба выпусціць пару, каб не трымаць негатыўныя эмоцыі ў сабе. Зрабіце гэта ўдалечыні ад блізкіх людзей. Зоркі не рэкамендуюць цяпер браць крэдыт – расплачвацца будзе не проста.


**РАК.** Другая палова можа зладзіць для вас праверку. Акуратней варта быць тым прадстаўнікам знака, у каго ёсць праблемы з сэрцам і сасудамі. Сачыце за здароўем.


**ЛЕЎ.** Вы можаце расслабіцца: справы зробленыя, пытанні вырашаныя. Правядзіце гэты час з задавальненнем. Адпраўляйцеся ў салон прыгажосці: гэта добры час для абнаўлення знешняга выгляду.


**ДЗЕВА.** Інтуіцыя наўрад ці дапаможа вам цяпер. У спрэчных пытаннях кансультуйцеся з дасведчанымі людзьмі. Перыяд удалы для любых здзелак з нерухомасцю.


**ШАЛІ.** У сям'і запануюць мір і спакой. Вы зможаце звярнуць увагу на іншыя сферы жыцця. Напрыклад, займіцеся працоўнымі пытаннямі. Цяпер можаце праявіць сябе так, каб начальства заўважыла вас.


**СКАРПІЁН.** На гэтым тыдні прыйдзецца не раз адстойваць уласны пункт гледжання. Будзьце настойлівыя! Вялікая рызыка пасварыцца з блізкімі сябрамі. Прапускайце міма вушэй крытыку.


**СТРАЛЕЦ.** Энергіі ў вас будзе столькі, што вы зможаце літаральна горы зрушыць. Цяпер можна займацца вырашэннем усіх важных пытанняў. Не спадзявайцеся на ўдачу, не чакайце дапамогі ад навакольных. Вы дасягнеце нашмат большага, калі будзеце разлічваць толькі на ўласныя сілы, уменне і веды. Не забывайце таксама пра здароўе.


**КАЗЯРОГ.** Прыемны сюрпрыз чакае вас. Падумайце, як ім скарыстацца, каб атрымаць максімальную карысць. Адпачынак павінны быць пасіўным. Дазвольце сабе набрацца сіл для новых здзяйсненняў.


**ВАДАЛЕЙ.** Магчыма, вы апынецеся на раздарожжы. Зрабіце паўзу: не прымайце ніякіх рашэнняў з гарачкі. Ва ўсім праявіце ўмеранасць – ад марнавання грошай да выказвання эмоцый.


**РЫБЫ.** Самы час сесці на дыету тым, хто мае лішнюю вагу. Кілаграмы будуць сыходзіць хутка. Не ўпадайце ў дэпрэсію, нават калі прычына для гэтага будзе. А каб пазбегнуць сур'ёзных памылак, будзьце ўважлівыя да дробязяў, нічога не ўпускайце з поля зроку.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 1 | | | 8 | | | | 9 |
| | 6 | | 2 | 7 | | | | 8 |
| | 7 | 2 | | 9 | | 4 | | |
| 4 | | | 7 | | | 6 | 3 | |
| | | 7 | 8 | | | | 9 | |
| 2 | | 6 | | | | | | |
| 1 | | | | 5 | | | | 3 |
| | | 5 | 9 | | | | 4 | |
| | 4 | | 3 | 1 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



# Дзе падзеліся львы з Гелянова

МАЛАДЗЕЧНА

**Першы мой успамін пра мікрараён Гелянова адносіцца да 1948 года. Тады мы з сям'ёй прыехалі з Данбаса на радзіму бацькоў. Нашы сваякі жылі на вуліцы Маркава ў Маладзечне. Тады ж яны паказалі нам Гелянова.**



Маладзечанскія львы ў Беразінскім.

Памятаю велічную трыумфальную арку паміж невысокіх дамоў і двух ільвоў, якія ляжалі на жываце каля аркі, нібы ахоўваючы яе. Родныя расказалі нам, што пры Польшчы тут быў вайсковы гарадок.

Калі ў 1960 годзе мы назаўсёды пераехалі ў Маладзечна, ні аркі, ні львоў ужо не было. Арку знішчылі, а звяроў, як я даведаўся, перавезлі ў пасёлак Беразінскае, што ў Маладзечанскім раёне.

Тут я і ўбачыў іх не так даўно знаёмых з дзяцінства львоў у пачатку алеі перад сельскім Домам культуры, дзе ладзілася мая выстава фотаздымкаў «Імгненні жыцця». І раптам падумалася: «А чаму б не вярнуць іх у Маладзечна?»

**Аляксандр САЛАГУБ, Маладзечна.**
**Фота аўтара.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Жыхарка Смаргонскага раёна Яўгенія Кулевіч збірала нечаканыя выказванні дзяцей. Назбіраўся не адзін дзясятак. Як гэтыя выказванні раскрываюць дзяцей і чаму варта іх запісваць?**

## 24 красавіка, субота

**Вецер:** заходні, 6 м/с




Паводле rp5.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як ставіцеся да лозунга «Жыве Беларусь»?



**Алена:**
– Супер! І я не разумею, што дрэннага? Не разумею, чаму пераследуюць з-за гэтага лозунга. Чаму судзяць? Гэта неяк супраць улады? «Жыве Беларусь» – гэта ж за краіну. Што крымінальнага ў чырвоным ці белым колерах?



**Аляксандр:**
– Нармальна стаўлюся. Не хаджу з гэтым белым-чырвоным сцягам па горадзе. Я вось у арміі служыў і добра стаўлюся да Беларусі: жыві і квітней Беларусь.



**Андрэй:**
– Я ў палітыку не лезу – вось такі ў мяне адказ. Ці палітычны гэта лозунг? З якога боку паглядзець.



**Віктар:**
– Нармальна.



**Лізавета:**
– Сам лозунг добры, таму што калі Беларусь жыве, значыць, і мы ўсе жывём. Але з якога боку глядзець: хто кажа, у якіх умовах кажа.



Тамара:
– Добра.

**Аддзел інфармацыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№17 (1356) 23.04.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 671. Падпісана ў друк у 9.00 22.04.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.